— *Каго любіш?*

— *Люблю Беларусь!*



ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

13 ВЕРАСНЯ 1996 г. № 37 (3861) Кошт 2 500 руб.

## "СЁННЯ СУМЛЕННЫ ЧАЛАВЕК МОЖА ТОЛЬКІ РАЗВЕСЦІ РУКАМІ..."

***Васіль БЫКАЎ: "У гэткіх абставінах, асабліва ў палітычных абставінах апошняга часу, — адзінае, што, можа быць, застаецца для дзеячаў культуры, — гэта кансерваваць тое, што ёсць — у галіне культуры, нацыянальнай ідэалогіі. Таму што калі і надалей справа пойдзе гэтак жа, то будуць зроблены захады дзеля таго, каб матэрыяльна панішчыць тое, што напрацавана за гэты час. А ў дадатак будзе разгорнута шалёная кампанія па дыскрэдытацыі — спярша ідэй, затым канкрэтных твораў, а пасля — іх аўтараў".***

**5, 12**

## "АБДЫМАЮ ДУШОЙ БЕЛЫ СВЕТ..."

***16 верасня вядомаму паэту, галоўнаму рэдактару часопіса "Полымя", лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі Сяргею Іванавічу ЗАКОННІКАВУ спаўняецца 50 гадоў.***

**8—9**

## МАЯ НАДЗЕЯ

Сябры-лімаўцы! Ёсць у Бібліі, у кнізе Эклезіяста, такія радкі: "Калі ты ўбачыш у якой вобласці прыцясненне беднаму і парушэнне суда і праўды, то не здзіўляйся гэтаму: таму што над высокім назірае вышэйшы, а над імі ёсць яшчэ вышэйшы. Перавага ж краіны ў цэлым ёсць цар, які клапоціцца аб краіне.

Прыцясняючы іншых, мудры робіцца неразумным, і падарункі псуюць сэрца..."

Ім можна адняць у нас Веру ў справядлівасць, Любоў паміж людзьмі, але Надзея памірае апошняй. У мяне гэтая Надзея — ваша газета. Яна той агеньчык, які грэе зледзянелую душу. Чытаючы "ЛіМ", я яшчэ спадзяюся, што назва маёй Радзімы не знікне назаўсёды, не растворыцца ў славянскай прасторы, што мае дзеці і ўнукі будуць ганарыцца сваёй гісторыяй і культурай, не саромеючыся, будуць зваць сябе беларусамі, гаварыць на спрадвечна роднай мове.

Над маёй Беларуссю ўзыдзе сонца Свабоды! Малю аб гэтым усемагутнага Бога.

**Ваша чытачка Таццяна БАРЭЛЬ**

*г. Асіповічы*

### АД РЭДАКЦЫІ:

Мо і ніякавата самім нам друкаваць такія лісты, аднак жа ёсць, мусіць, праўда і ў словах: "Калі не сам, дык хто?" А друкуем найперш дзеля таго, каб нагадаць, што падпіска на чацвёрты квартал прадоўжана **да 20 верасня,** прадоўжана на ўсе выданні, у тым ліку і на "ЛіМ". Значыць, ёсць яшчэ ў запасе тыдзень, дарагія сябры, каб завітаць на пошту, ахвяраваць *21 тысячу рублёў* і... атрымліваць наш штотыднёвік у кастрычніку, лістападзе і снежні. Спадзяёмся на ўзаемнасць!



## КУЛЬТУРА... ВЫМАГАЕ РАДАСЦІ

Іван ПІНІГІН — кіраўнік і рэжысёр праграмы "Абібок" незалежнай тэлекампаніі ФІТ, пэўна, з радасцю саступіў бы камусьці "радасць" збіраць праграму на сюжэтах, а сам тым часам прыдумваў бы новыя хады ды сюжэты, падымаў бы свайго "Абібока" — на якасна новую ступень. Раз на тыдзень пад ягоным кіраўніцтвам ды пры дзейсным удзеле ў эфіры разгортваецца стракаты вахлік самых вартых (будзем спадзявацца) нашай увагі з'яў, праяў ды падзей мастацкага і, як сцвярджаюць, — свецкага жыцця. Паспрабуйце сабраць 14—16 сюжэтаў за тры васьмігадзінныя змены, ды калі на адным такім — сто-дзвесце сутыкаў! Пры такой рабоце абібокам можна толькі звацца.

*(Працяг на стар. 16)*

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Палітычнае жыццё на Беларусі перайшло ў фазу найвышэйшай напругі. Супрацьстаянне акрэслілася і развязкай яго цяпер можа стаць толькі скасаванне адной з галін улады. І прэзідэнт, і апазіцыя спадзяюцца на народ. Прэзідэнт — на ягоную вернасць, апазіцыя — на мудрасць. Але народ рэдка бывае верным і яшчэ радзей — мудрым. Абодва бакі гэта разумеюць. І таму развязка можа наступіць значна раней, чым мяркуецца, і задоўга да рэферэндуму. Тым больш, што прэзідэнт задаў сабе і іншым такі тэмп, які цяжка вытрымаць нават здароваму чалавеку...***

## НЕЧАКАНАСЦЬ ТЫДНЯ

Паколькі "лімаўскі" тыдзень ад пятніцы да пятніцы, то і пачынаем мы з сенсацыйнай падзеі, якая, здаецца, была ўжо вельмі даўно, але не ўвайшла ў мінулае "Кола дзён": абранне Віктара Ганчара старшынёй Цэнтрвыбаркама. Гэта быў першы ход парламента ў адказ на "ініцыятывы" прэзідэнта, гэта быў першы знак таго, што парламент не збіраецца здавацца. "Прэзідэнцкая калона" ў парламенце спрабавала супрацьстаяць абранню Ганчара, палохала канфрантацыяй, але парламент зрабіў гэты крок. Гэта потым ужо пачаліся размовы пра нелегітымнасць абрання ды іншыя прычэпкі, а на той момант "прэзідэнцкая раць" аказалася ў шоку.

## ПРЫНЦЫПОВАСЦЬ ТЫДНЯ

Парламент пайшоў і далей: прэзідэнта выслухаў, аднак рашэнне па рэферэндуме прыняў сваё — дадаў да чатырох прэзідэнцкіх пытанняў тры ўласныя. А самае галоўнае, не падтрымаў прэзідэнцкае рашэнне правесці рэферэндум 7 лістапада і прызначыў сваю дату — 24 лістапада, аб'яднаўшы рэферэндум з давыбарамі ў Вярхоўны Савет. Лагічна, але на гэтым фоне яскрава высветлілася абсурднасць прэзідэнцкіх прапаноў. Акрамя таго, сам прэзідэнт не чакаў, што, здавалася б, апрацаваны, дэмаралізаваны і запалоханы парламент здолее сабрацца з сіламі і паспрабаваць даць бой надыходу дыктатуры.

## ГАРАЧКА ТЫДНЯ

Прэзідэнт, адчуўшы, што трон пад ім захістаўся, замітусіўся. З беларускай правінцыі, у суботу, ён кінуўся ў Маскву да старэйшых братоў па падтрымку. Там яго, зразумела, ніхто не чакаў... Мы яшчэ даведаемся, з якім "пакетам прапаноў" ездзіў у Маскву А.Лукашэнка. Але, мяркуючы па ўсім, Масква прыняла яго холадна і не адважылася пакуль зрабіць дзяржаву Беларусь расійскай правінцыйнай губерніяй. "Дзяржаўныя" справы так, з наскоку, не робіцца. Падобна, Масква здольна наступіць на горла сваім імперскім амбіцыям. Але ці доўга яна будзе ўстрымлівацца ад спакусы?

## ПРЫЗНАННЕ ТЫДНЯ

"Што ў цвярозага ў галаве, у п'янага на языку", — кажа народ. Гэтакім "п'яным" сярод расійскіх палітыкаў можна лічыць У.Жырыноўскага. Многія "спрэчныя" і, здавалася б, цалкам абсурдныя ідэі ды ідэйкі былі спачатку кінуты ў народ ім, а потым абкатаны дзяржаўнай машынай у крыху спрошчаным варыянце. Вось і кінуўся на мінулым тыдні У.Жырыноўскі на абарону А.Лукашэнкі. "Независимая газета" надрукавала ягоны артыкул "Чаму мы павінны біцца за Лукашэнку", які адразу ж перадрукавала прэзідэнцкая "Народная газета". Прачыталі мы ў артыкуле і такія радкі: "...Есць сур'ёзная небяспека, што чубайсаўскі Крэмль адвернецца ад Лукашэнкі. Гэтага нельга дапусціць ні ў якім выпадку. Патрыятычныя сілы ў расійскай палітыцы не павінны дапусціць пахаладання ў адносінах з Мінскам. Дрэнны Лукашэнка ці добры, але ён перратварыўся ў сімвал аб'яднання народаў у постсавецкі перыяд. Знішчыць гэты сімвал азначае надоўга адсунуць перспектыву адраджэння імперыі". Вядома, У.Жырыноўскі мае на ўвазе не ВКЛ, а Расійскую імперыю з адзіным і недзялімым рускім народам, у "якім" няма месца розным там чукчам, татарам ды беларусам...

## ПАЗІЦЫЯ ТЫДНЯ

У сувязі з дзеяннямі прэзідэнта і парламента, у якім, як вядома, няма ніводнага прадстаўніка БНФ, цікава было б ведаць пазіцыю гэтай адной з самых уплывовых сёння палітычных партый Беларусі. Чарговае пасяджэнне Сойма БНФ доўжылася амаль шэсць гадзін. Рашэнне аб адносінах да рэферэндуму і да давыбараў у Вярхоўны Савет давалася цяжка. Гучалі самыя розныя, часам палярныя, прапановы, але размова вялася вакол аднаго: удзельнічаць — не ўдзельнічаць, байкатаваць — не байкатаваць. У рэшце рэшт прынята рашэнне: "не ўдзельнічаць у кампаніі выбараў і рэферэндуме". Але БНФ пакідае за сабой права змяніць гэтае рашэнне і прыняць удзел у выбарах, калі ў бліжэйшы час у краіне будуць створаны сапраўды дэмакратычныя ўмовы для правядзення выбараў і рэферэндуму.

## ЗВАРОТ ТЫДНЯ

"Людзі, будзьце пільнымі! У рэспубліцы запахла фашызмам" — пад такім назвам "Народная воля" (N 81) надрукавала зварот да народа Беларусі Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Сямёна Шарэцкага. Запомнім гэты дзень: фактычна 11 верасня, публікацыяй гэтага артыкула на Беларусі распачалася адкрытая барацьба з рэжымам Лукашэнкі, з ягонымі планамі стаць аднаасобным кіраўніком краіны. Сямён Шарэцкі звяртаецца да ўсіх грамадзян Беларусі "з просьбай зразумець, што адбываецца на самой справе ў нашай краіне... адстаяць сваю будучыню, зрабіць усё, каб не дапусціць ператварэння нашай цудоўнай краіны ў канцэнтрацыйны лагер!" На жаль, нават спікер парламента вымушаны друкаваць свае артыкулы, звароты ў малатыражнай незалежнай прэсе. Дзяржаўнае тэлебачанне і радыё, дзяржаўны друк — нават газеты — "органы Вярхоўнага Савета РБ" — для яго зачынены...

## АБАЛВАНЬВАННЕ ТЫДНЯ

У прэзідэнта з'явіліся "новыя ворагі" — парламент, старшыня парламента і яго намеснікі. І адразу ж распачалася кампанія па "дыскрэдытацыі" працўнікаў, а дакладней — кампанія па абылганні, паклёпе і г.д. Прычым, сродкі ўсё тыя ж, даўно знаёмыя. Ліст з-за мяжы, у якім аўтар выкрывае сам сябе, а заадно і "ворага прэзідэнта", "дакументальны" фільм, "чутка", раздзьмутая да памераў "факту" і г.д. Дзіўна толькі, што фільм пра С.Шарэцкага не паўтарылі заўтра і паслязаўтра "па шматлікіх просьбах гледачоў", а "факт" набыцця зброі для абароны парламента не пацвердзілі паказам рагаткі ўнука Новікава, Карпенкі, Багданкевіча ці каго іншага. Наогул прэзідэнцкая прапагандысцкая машына дзейнічае пакуль беспрабойна. Асабліва тэлебачанне і радыё. Што і дзіўна. Бо бачым мы — мала людзей пайшло на службу прэзідэнту: каторы месяц на БТ адны і тыя ж твары. Інтэлігенцыя на прыгожыя абяцанні ўсё-ткі не купілася. Што і дае нам надзею на лепшую будучыню.

---

З нагоды

# ЯК У НЯДЗЕЛЮ ХРАМ НАВЕДАЦЬ...

8 верасня ў імпрэзе, прысвечанай Дню беларускай вайсковай славы, бралі ўдзел не замоўленыя арганізатарамі трыццаць тысяч, а недзе разоў у шэсць меней. Прыблізна столькі ж, колькі і 2 верасня каля Палаца культуры чыгуначнікаў у час сустрэчы з народнымі дэпутатамі. У параўнанні з мінулымі гадамі, калі Дзень беларускай вайсковай славы збіраў дзесяткі тысяч удзельнікаў і меў агульнанацыянальны розгалас, сёлетняя імпрэза атрымалася сціплай.

Але калі не браць да галавы лічбы, дык мітынгі і шэсці ў сённяшняй сітуацыі для палітызаванай часткі грамадства — тое ж самае, што для верніка ў пэўныя дні наведванне храма. Пакуль людзі ходзяць у храм маліцца і слухаць казані — храм стаіць, і ніхто не здолееператварыць яго ў краму, склад альбо зруйнаваць. Так што на мітынгі хадзіць трэба, а сапраўдных вернікаў многа ніколі не бывае.

Свята беларускай вайсковай славы ў момант нараджэння трактавалася як сродак прапаганды сапраўднай гісторыі Беларусі. Колькі год таму шмат для каго было немагчыма ўявіць, што Масква неадноўчы была адносна Беларусі агрэсарам. Ды і сёння такіх хапае. Недарма на першых святкаваннях дамінаваў, так бы мовіць, знешні аспект: Масква, Расія была і застаецца рэальнай пагрозай незалежнасці Беларусі, Масква рыхтуе "пятую калону", а кіраўніцтва Беларусі з Масквою заадно.

На сённяшняй імпрэзе адбыўся зрух у бок іншай трактоўкі сітуацыі. Масква, маўляў, клапоціцца пра свае інтарэсы, і ў гэтым нічога дзіўнага. Перш чым разбірацца з Масквою, трэба разабрацца з тымі сіламі ў Беларусі, якія ўяўляюць пагрозу для нашага суверэнітэту. Зразумела таму, што выступленні на мітынгу мелі антыпрэзідэнцкі змест.

Праўда, зараз эпіцэнтр палітычнай барацьбы перамясціўся з мінскіх вуліц, дзе вясною тварылася вялікая палітыка, у авальную залу і калідоры Дома ўрада. Дэпутаты не асмеліліся адмовіць сп. Лукашэнку ў рэферэндуме, але ўнеслі ў яго альтэрнатыўныя пытанні, чым таксама моцна сапсавалі прэзідэнту настрой. Трэба разумець псіхіку люмпена: ён не здольны даць уцямнага адказу, калі яму прапаноўваецца выказацца па пытаннях, якія ўзаемна выключаюць адно другое. Год назад было проста. Чатыры пытанні, на кожнае з якіх прэзідэнт хацеў адказу "так". Цяпер жа ёсць пытанне і пра дадатковыя паўнамоцтвы прэзідэнту, і пра скасаванне інстытута прэзідэнцтва. На прэзідэнцкім рэферэндуме — антыпрэзідэнцкае пытанне? Гэтак можа і "крыша паехаць"... Можа атрымацца, як з тым пытаннем пра суверэнітэт — шмат хто адначасова за суверэнную Беларусь і за яе "ўз'яднанне" з Расіяй.

Дарэчы, Расія паказала на сваім тэлеэкране мінскі мітынг у той жа дзень, 8 верасня. Каментарый быў нейтральны.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

---

Імпрэзы

# СВЯТКАВАЛІ ДВА ДНІ

У мінулыя суботу і нядзелю ў Століне прайшоў І Рэспубліканскі фестываль-кірмаш "Дажынкі — 96". У першы дзень каля трыццаці фальклорных калектываў з усёй Беларусі, выступіўшы на цэнтральнай плошчы горада, раз'ехаліся па калгасах раёна. Павіншаваў гасцей са святам віцэ-прэм'ер Уладзімір Гаркун, які не ўстрымаўся, каб не пахваліцца, што ў гэтым годзе валавы збор збожжа склаў амаль шэсць мільёнаў тон — гэта на 400 тысяч тон больш за леташні. А ў асноўным першы дзень свята быў аддадзены на падрыхтоўку да другога, калі прыехаў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. І ўжо з васьмі гадзін раніцы адчынілі свае дзверы крамы і шынкі, у якіх прылаўкі прагіналіся пад вэнджанымі парасятамі, кумпячкамі ды рознымі ўежнымі спакусамі. Людзі хадзілі і дзівіліся на ўсё гэтае багацце, але больш за ўсё на цэны.

У другой палове нядзелі прэзідэнт А. Лукашэнка 12 лепшым камбайнерам (пераможцам сацспаборніцтва) уручыў аўтамашыны. Такімі ж падарункамі былі ўзнагароджаны і шэсць райвыканкомаў. Пасля прэзідэнта сцэну занялі зоркі беларускай эстрады, якіх у Столін прыехала ажно каля 100 чалавек. Не абышлося свята і без тых паэтаў, якія апошнім часам любяць пабыць сярод людзей і, калі не воддаль з прэзідэнтам, дык з любым іншым кіраўніком дзяржавы, пакрасавацца на тэлеэкране.

Свята доўжылася да глыбокай ночы. І калі змяркалася, неба асвяціў святочны феерверк.



*На здымках: моманты з І Рэспубліканскага фестывалю-кірмашу "Дажынкі — 96".*

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*



---

# КАБ ЧУТКІ НЕ СПРАЎДЗІЛІСЯ...

Здзіўленне, насцярожанасць і разам з тым рашучую гатоўнасць бараніць свае правы выказалі ўдзельнікі бацькоўскага сходу, які адбыўся на пачатку тыдня ў Беларускім гуманітарным ліцэі. Прычынай хваляваняў з'явіліся распаўсюджаныя чуткі аб тым, што будынак на Кірава, 21, дзе колькі гадоў таму размяшчаліся карпусы партыйнай школы, падабаецца не толькі яе цяперашнім законным гаспадарам, але і прэзідэнцкай Адміністрацыі.

"Афіцыйных папер нам яшчэ ніякіх не паступала, — сказаў дырэктар ліцэя Уладзімір Колас. — Аднак я падзяляю трывогу бацькоў і ліцэістаў і не лічу яе зайчаснай. Папераджальныя, прэвентыўныя метады найбольш эфектыўныя, а сітуацыя настолькі недарэчная, што нагадвае правакацыю. Я не думаю, каб улады пайшлі на такі крок".

Да слоў спадара Коласа варта дадаць, што ўчыняць маёмасную цяганіну на пачатку новага навучальнага года можа дазволіць сабе толькі бездаказны чыноўнік. У тым выпадку, праўда, калі палітыка тут ні пры чым. Бо ліцэй як —беларускамоўны.

**Віталь ПРОШЧА**

---

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

З трыццатых гадоў, калі Беларусь прымушалі сеяць кок-сагыз, жыве ў народзе прыпеўка: "Дзякуй Сталіну-грузіну, што пасеяў нам рызіну". Надаўна ў аўтобусе пачуў праццяг: "З той рызіны, з той рызіны нарабілі нам дубіны". Быццам і не пралягла паміж дзвюма прыпеўкамі эпоха.

●

Дзеля пастаяннай санацыі нацыі ўсямерна падтрымліваць спартыўныя арганізацыі. Спрыяючы далейшай іх камерцыялізацыі, дазволіць бяспошлінны гандаль спіртным, не зважаючы на страты для нацыі.

●

У пункт абмену валюты ўварваліся рабаўнікі. — Долары! — грозна патрабавалі яны ад касіра. — Можа, гэтыя неяк наладзяць абмен, — зашапталіся ў чарзе ля вакенца. — Гэй, хлопцы, колькі будзе ў вас каштаваць нарабаваны долар?.. Баюць, такім чынам запрацаваў у горадзе адзін з абменных пунктаў.

●

Мова цяпер наша вось, паратунак ад дэфармацыі. У мове ўсё ўжо ёсць, каб абараніць нацыю. Мова — як мацярык, гаючы закутак. Не трэба мне іншы "язык", не трэба адзінства з манкуртамі!

●

Парадныя скульптуры, "аздоба" родных гарадоў, я б тыя фігуры знёс, і не з меркаваннаў кан'юнктуры — фігуры фармуюць густы сённяшніх кіраўнікоў, і, можа, усю для плошчаў ёсць новыя кандыдатуры.

●

Надпіс на базарным шапіку: "Грамадзяне Рэспублікі Беларусь абслугоўваюцца ў першую чаргу". Рэклама, скажам прама, не сусветнага маштабу. Чэргаў няма. Але льгота вабіць.

●

"Кожная мова — медаль, адчаканены гісторыяй. Мне кожнага слова жаль, страчанага, непаўторанага" *(З Антуана дэ Рывароля, французскага публіцыста 18 ст.).*

## АБ УВЕКАВЕЧАННІ ПАМЯЦІ БАРЫСА САЧАНКІ

**Паводле пастановы Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь аб увекавечанні памяці вядомага беларускага пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа Барыса Сачанкі, у 1997 годзе на доме N 29 па вуліцы Пуліхава ў Мінску, дзе жыў пісьменнік, будзе ўстаноўлена мемарыяльная дошка.**

**Запланавана стварыць дакументальны фільм аб жыцці і творчасці Б.Сачанкі. У 1996—2000 гадах будзе падрыхтаваны і выдадзены Збор твораў Б.Сачанкі ў шасці тамах.**

**Велікаборская базавая школа Хойніцкага раёна атрымае імя Б.Сачанкі. Гомельскаму аблвыканкому сумесна з Хойніцкім райвыканкомам рэкамендавана вывучыць пытанне аб стварэнні філіяла Хойніцкага краязнаўчага музея ў вёсцы Вялікі Бор, дзе нарадзіўся пісьменнік, і прыняць адпаведнае рашэнне. Рэкамендавана таксама Хойніцкаму райвыканкому прыняць рашэнне аб наданні адной з вуліц Хойнік імя Б.Сачанкі.**

## ПЕРШЫЯ РАКАЎСКІЯ ЧЫТАННІ

**2 верасня 1996 г. адбыліся першыя Ракаўскія чытанні. Правядзенне такіх штогадовых імпрэзаў у невялікіх гарадах Беларусі становіцца ўжо добрай традыцыяй — падобныя чытанні існуюць у Наваградку, Мёрах, Карэлічах і г.д. Але ўпершыню (дзякуючы, перадусім, намаганням ураджэнца Ракава, прэзідэнта Міжнароднага Купалаўскага фонду, акадэміка Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, прафесара БДУ Вячаслава Рагойшы, ідэю якога падтрымалі мясцовыя ўлады), такая падзея адбылася не ў горадзе, а ў мястэчку.**

**На чытанні прыйшлі ўсе тыя, хто цікавіцца гісторыяй і культурай Ракаўшчыны і ўсяго Валожынскага раёна, у першую чаргу — вучні мясцовай сярэдняй школы. З дакладамі выступілі кандыдат гістарычных навук В. Шаблюк, краявед В. Налецкі, доктар філалагічных навук В. Рагойша, святар В. Перагудаў, кандыдат філалагічных навук Я. Янушкевіч і Т. Кабржыцкая, акадэмік жывапісу Ф. Янушкевіч.**

**Старшыня аргкамітэта чытанняў В. Рагойша выказаў спадзяванне, што ў наступным годзе яны ператворацца ўжо ў міжнародныя, таму што Ракаў добра вядомы й за межамі Беларусі.**

**Усё гэта яшчэ раз засведчыла, што культурніцкая дзейнасць існуе не толькі ў Мінску, але і ў невялікіх мястэчках, гісторыя якіх, аднак, не менш цікавая за сталічную.**

**А. Ш.**

## "КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ" ЛЕТАМ

**Чэрвеньскі нумар інфармацыйна-аналітычнага бюлетэня "Кантакты і дыялогі" прапануе ўвазе чытачоў артыкул Аляксея Рагулі пад назвай "Культура утапічнага мыслення і выбар нацыянальнага шляху". Галоўнай прычынай нерэалізаванасці беларускага духоўнага скарбу, лічыць аўтар, гэта адсутнасць па-сапраўднаму суверэннай прававой дзяржавы, што не можа не адбіцца на развіцці культуры. "Палітыка моўнага нігілізму разбуральна ўплывае на творчы патэнцыял асобы. (...) Выйсце з тупіка адно — пераадоленне двухмоўя, а заадно і раздваення асобы".**

**А . Тоўсцік узнімае пытанне пра крыж святой Ефрасінні. Ёсць ускосныя звесткі, што шукаць яго варта ў запасніках Эрмітажа або іншых расійскіх музеяў.**

**Рубрыка "Беларусы ў свеце" прадстаўляе мастачку Тамару Стагановіч (ЗША), інжынера-авіябудаўніка Міхала Гедройця (Англія), фармацэўта Лаўрэна Клыбіка (Бельгія).**

**У здвоеным нумары 7—8 пра ментальнасць грамадзян Беларусі разважае Эдуард Дубянецкі. Ён прыходзіць да высновы, што "архаічна-язычніцкая па сваёй глыбіннай сутнасці ментальнасць была як бы "закансервавана" ў асяроддзі беларускага сялянства на многія стагоддзі". У далейшым адбылася канвергенцыя дзвюх ментальнасцей — язычніцкай і хрысціянскай, а таксама дадалася "савецкасць". У выніку маем усе прыкметы інерцыйнасці, кансерватыўнасці мыслення. Досыць цікавым падаецца аналіз грамадска-палітычнай арыентацыі, у многім звязанай са ступенню самасвядомасці нашага народа.**

**З беларусаў свету прадстаўлены гісторык і пісьменнік Янка Запруднік (ЗША), дырэктар Беларускага музея і Бібліятэкі імя Скарыны ў Лондане Аляксандр Надсан, празаік Сакрат Яновіч (Польшча), які, да слова сказаць, нядаўна быў узнагароджаны Афіцэрскім крыжам ордэна Адраджэння Польшчы, і іншыя.**

**Г. З.**

Адгалоскі

# "УНИЗИТЕЛЬНЫЙ ХОЛУЯЖ"

Словы, пастаўленыя ў загалоўку, — не мая выдумка. Гэта — выніковая фраза артыкула "Подстрекатели", што надрукаваны "Знаменем юности" 22.8.1996 г. Яны выкарыстаны, каб назаўжды абліць брудам "противников курса на интеграцию с братской Россией; противников подлинного народовластия...", носьбітаў "подстрекательских призывов и провокационных спекуляций", якія "хотят превратить Беларусь в полигон по реализации сценария установления диктатуры криминального капитализма и агрессивного национализма". У адпаведнасці з тэкстам артыкула атрымліваецца, што "противниками", "подстрекателями" і рознымі "спекулянтами" з'яўляюцца прадстаўнікі беларускай нацыянальнай эліты. Слова "холуяж" там не адзінокае. Ёсць і "национал-мафиозные структуры", і "тандем с радикал-националистами". Ёсць і лідэр фракцыі "коммунистов С. Калякин, заболевший звездной болезнью провинциального парня". Маецца і "бээнэфовская бредятина".

Мэта артыкула "Подстрекатели" сфармулявана так: "Боевики погромы не начинают. Погромы начинают интеллектуальные подстрекатели. Их надо вовремя остановить." Праўда, не напісана, што ж гэта за "боевики" ў "интеллектуалов". Але з намёкаў атрымліваецца, што ў Беларусі ёсць амаль што бандфарміраванні БНФ. А журналіст газеты "Свабода" В. Цыганкоў "провел своеобразный смотр сил местных боевиков". Далей ідзе такая бязглуздзіца, з якой можна зрабіць вывад аб існаванні якогасьці страшэннага "Белого легиона" "ў выглядзе некалькіх згуртаваных і добра арганізаваных груп". Усё гэта падаецца ад імя народа. Таму, калі не "остановить" тых "подстрекателей", то "действительно народ не простит". Значыць, уперад, на знішчэнне гэтых новых ворагаў народа! Паміж радкоў чытаюцца і метады, якімі можна тое зрабіць: маральнае знішчэнне (любымі метадамі!) тых "подстрекателей" і спыненне выплачвання ім зарплаты "за подстрекательскую болтовню", зняццё з дзяржаўных датацый газет "Наша слова", "ЛіМ" і часопісаў "Вожык", "Полымя". Але ж тыя самыя прадстаўнікі беларускай нацыянальнай эліты дзяржаўную зарплату атрымліваюць за пэўную працу на дзяржаву, пад якою разумеецца ўвесь народ, а не прэзідэнт асабіста. Набытыя ж нацыянальнай элітай веды і навыкі іх выкарыстоўвання — галоўная (пасля захавання дзяржаўнасці) каштоўнасць народа, без якой зараз проста немагчыма яго цывілізаванае жыццё і, пэўным чынам, само фізічнае існаванне. Прэзідэнцкія ж газеты "холуяжно" служаць яму, ягоным хваравітым амбіцыям. Іх кіраўніцтва (і, адпаведна, штат выканаўцаў) падбіраецца не столькі па стваральных якасцях у мэтах служэння народу, колькі па гатоўнасці прыслужваць прэзідэнту.

Гэта часта вельмі відавочна. Так, не так даўно мне доўга і цярпліва прыйшлося даказваць галоўнаму рэдактару адной з прэзідэнцкіх газет, што зараз для нармальнага цывілізаванага грамадства яго галоўнымі, вядучымі сіламі павінны з'яўляцца вучоны, настаўнік і ўрач. Бо першы пазнае законы прыроды і грамадства, у адпаведнасці з якімі толькі і магчыма цяпер нават звычайнае існаванне людзей, не кажучы ўжо аб іх прагрэсіўным развіцці. Другі — перадае тыя веды і навыкі іх выкарыстання ўсім людзям, фарміруе душу кожнага чалавека і сукупную душу народа. Трэці — лечыць цела разам з псіхікай і праз тое ўплывае на душу кожнага з нас. Але мае намаганні не мелі поспеху. Ён проста не разумеў мяне. Бо быў перакананы ў іншым: галоўныя сілы грамадства — ва ўладзе.

Магчымасці такіх газет у сэнсе служэння Разумнаму, Добраму, Вечнаму непараўнальна абмежаваны ў параўнанні з газетамі і часопісамі, погляды якіх супадаюць з памкненнямі беларускай нацыянальнай эліты. Аднак нідзе і ніхто з вярхоўнага кіраўніцтва Беларусі і не думае ставіць пытанне аб зняцці гэтых выданняў з дзяржаўнай датацыі. Мэта тут адна: ЗАДУШЫЦЬ МОЎНЫЯ І ДУХОЎНЫЯ ПАРАСТКІ БЕЛАРУСКАСЦІ! Але ж гэта — велізарнае злачынства! Бо Этнасы і іх Мовы — невыпадковыя Боскія стварэнні. За такія злачынствы супраць цэлых народаў прыйдзецца адказваць вінаватым.

Асабліва моцны артылерыйскі залп скажэнняў, бруду і зняваг "Знамя юности" робіць у адрас тых прадстаўнікоў нацыянальнай беларускай эліты, якія падпісалі "Заяву грамадскага камітэта абароны беларускай нацыянальнай гістарычнай сімволікі" (гл. "Народную волю" N 53 за 1996 г.). Аўтар "Подстрекателей" называе яго "детской страшилкой", а сам камітэт — "смехотворным". Але ж так атрымалася, што 9-м з тых "смехотворцев" апынуўся я, адразу пасля В. Быкава. У той камітэт паклікаў мяне боль душэўны за лёс нашай радзімы. Адзначанае патрабуе ад мяне адпаведных тлумачэнняў.

Аўтар "Подстрекателей" — Кім Ягораў. З гэтым прозвішчам (імя не памятаю) я ўжо сустракаўся больш года назад. Яго носьбіт выступаў у мой адрас са здзекам аж у "Лясной газеце". Прыпісваў мне русафобію, ад якой ён быццам бы пакутуе: напісаў важкую (па яго словах) кніжку, але яе не бяруць у друк па прычыне рускамоўнасці. На самай жа справе (як потым аказалася), не друкавалі той твор як нізкаякасны. Той гэта Ягораў ці не, — не ведаю. Таму пры выказваннях буду прытрымлівацца толькі тэксту "Подстрекателей". У імкненні выслужыцца перад самім "Бацькам А. Лукашэнкам" аўтар гэтага твора імянуе вышэйназваны камітэт "настоящей асамблеей антипрезидентских сил на государственном бюджете". Робіць гэта ў адпаведнасці з раней азначанай мэтай: знішчыць, "раздавить ту антинародную гадину" па прыкладзе сталінскіх часоў. Але зрабіць такое зараз у прамым сэнсе не так проста, як раней. Да таго ж, большасць "антипрезидентских сил" — дактары і кандыдаты навук, акадэмікі, лаўрэаты высокіх прэмій, знакамітыя пісьменнікі і проста сумленныя людзі. Таму выкарыстоўваюцца прыёмы савецкай сістэмы па грамадзянскім знішчэнні. Для гэтага яны спачатку прадстаўляюцца "бойцами идеологического фронта сусловского замеса". Але ж я, напрыклад, ні аднаго імгнення ў КПСС не быў па перакананні і з-за стойкай непавагі да савецкай сістэмы наогул. Не мелі таго "замеса" і некаторыя іншыя "бойцы". Па гэтаму шэрагу членаў грамадскага камітэта даецца мянушка "сталинских лауреатов". Але, па-першае, гэта былі часцей за ўсё лепшыя людзі, якія адзначаліся прэміяй, што насіла такую назву. Таму яна зараз перайменавана ў дзяржаўную. Па-другое, сапраўды "сталинские лауреаты" аб'яднаны ў зусім іншыя камітэты. Таму, каб прыбіць некаторых "врагов" канчаткова, К. Ягораў напамінае ім: "вы бывшие члены ЦК КПБ". Аднак і гэтым "врагам" трэба аддаць належнае. Бо немалое сумленне і мужнасць трэба мець, каб "отречься от старого мира", зразумеўшы яго ганебную сутнасць. Прыкладам таму з'яўляюцца Б. Ельцын і А. Якаўлеў. Гэта ж можна сказаць і пра нашага Г. Таразевіча. Большасць жа "былых, высокапасадных" альбо добра прыстасавалася да капіталістычных умоў, альбо згуртавалася ў рады "новых ленінцаў".

Ад аўтара "Подстрекателей" дасталося "на арэхі" за кампанію рэдактарам і такіх газет, як "Народная воля", Свабода", "Пагоня", "Здравый смысл", "Белорусская деловая газета", "Белорусская газета". А між іншым і на іх грунце трымаецца зараз падмурак інтэлектуальнага сумлення Беларусі. Персанальна ж найбольш знішчальныя залпы бруду выкінуты супраць Маякоў-Светачаў Беларускага народа В. Быкава і акадэміка Р. Гарэцкага. Вельмі зняважаны і лабарант АН А. Матуз. Зрабіць гэта мог толькі самы яры БЕЛАРУСАФОБ. Бо нават у злачынца-беларуса (як і ў прадстаўніка любой іншай нацыі) заўжды застаецца ў душы, на генным узроўні, штосьці тое Святое ў адносінах да свайго этнасу, якое ён не зможа пераступіць. Інакш ён — проста НЕЛЮДЗЬ.

Вядома, што адкрытае ганьбаванне прадстаўнікоў вядучай нацыянальнай эліты любой дзяржавы можа зрабіць толькі чалавек невысокай культуры і духоўнасці, абмежаванага інтэлектуальнага развіцця. Гэта яскрава пацвярджаецца выказваннямі ў "Подстрекателях" у адрас жанчын, членаў вышэйназванага нацыянальнага камітэта: "Тут и группа дамочек особого темперамента, но не установленного возраста, национальности и пола".Улічым яшчэ адно "экзатычнае" выказванне К. Ягорава: "тут и крепко и непрестанно пьющие (маюцца на ўвазе члены таго ж інтэлектуальнага камітэта — аўт.), и старшие лаборанты" (гэта значыць — людзі, не заслугоўваючыя па Ягораву павагі). Але ж сказанае — злачынная хлусня, разлічаная на наўмыснае нацкоўванне простага народа на мозг нацыі. Бо я, напрыклад, зусім не п'ю і ніколі не курыў. Не п'юць В. Быкаў, А. Грыцкевіч, М. Крукоўскі, Г. Штыхаў, У. Конан, М. Савіцкі, Э. Ялугін, Р. Гарэцкі і большасць іншых членаў камітэта. Маюцца ў "Подстрекателях" і звычайныя, але цяжкія скажэнні. Так, напрыклад, даўно ўстаноўлена, што Булак-Балаховіч ніколі не быў "кровавым палачом Беларуси", а спадар Надсан у цэлым заслугоўвае ўдзячнасці, а не зняваґі ад беларускага народа, і інш.

Адкуль жа сапраўды зыходзіць небяспека нашай Беларусі? Такое пытанне невыпадковае. Бо рэальна існуе небяспека самастойнаму існаванню нашай дзяржавы. Яна дапаўняецца пагрозай поўнага абалваньвання беларускага народа. Але ідзе яна не ад БНФ і Беларускай нацыянальнай эліты. Свет яшчэ не ведаў такога: тыя пагрозы ідуць перш-наперш ад самога прэзідэнта Беларусі і яго "холуяжного" акружэння. "Беларусь можа стаць жамчужынай Еўропы", — сказаў Генадзь Селязнёў, старшыня Дзярждумы Расіі ("Звязда" ад 12. 7. 1996 г.). Аднак адкрыта ён не выказаў працяг сваёй думкі аб тым, што адбыцца тое можа толькі без А. Лукашэнкі на чале краіны. Аб гэтым я яшчэ напярэдадні другога тура прэзідэнцкіх выбараў пісаў: "Калі ж прарвецца ў прэзідэнты ўпарты, імпульсіўны, неўраўнаважаны, хваравіта прагны да ўлады, павярхоўны, у якойсьці меры абдзелены культурай і надзелены агрэсіўнасцю А. Лукашэнка з такой жа камандай, то расплата будзе яшчэ большай. Мы ў галоўным будзем адкінуты далёка назад. І, магчыма, надоўга. Абноўлены бальшавізм прынясе блытаніну, падазронасць, новыя прыніжэнні, абноўленыя элементы бессаромнасці, узаемную варожасць, гвалт і закрые шлях для яднання народа пад гуманнай Беларускай Ідэяй, якая больш чым далёкая ад агрэсіўнага нацыянал-сацыялізму і рускага шавінізму" ("Звязда" ад 9.7.1994 г.). Гэта нядаўна амаль слова ў слова паўтарыў нават сакратар кампарыі Беларусі Васіль Новікаў у артыкуле "Против лома нет приема окромя другого лома" (гл. газеты "Товарищ" і "Народная воля" за 23.8.1996 г.).

Адносна "интеграции с Россией" логіка падказвае толькі адну думку: Беларусь павінна самастойна, з разумнай ганарлівасцю і самапавагай уваходзіць не ў склад Расіі, а ў цывілізаванае агульначалавечае супольніцтва. Гэтая думка супадае з выказваннямі Ягора Строева, старшыні Савета Федэрацыі Дзяржаўнай Думы Расіі: "никакими обручами (даже военными) нынешние независимые и суверенные республики в единое государство не стянешь. А станеш стягивать — получится то же, что и в Чечне" ("Труд" ад 26.7.1996 г.). На вялікі жаль, нашаму прэзідэнту такія парады проста, пэўна, некалі чытаць.

**Аляксей САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук,**
**прафесар**

# "СЁННЯ СУМЛЕННЫ ЧАЛАВЕК МОЖА ТОЛЬКІ РАЗВЕСЦІ РУКАМІ..."

## ГУТАРКА З ВАСІЛЁМ БЫКАВЫМ

***Гэта гутарка з Васілём БЫКАВЫМ запісана ў мінулым годзе, пасля першага вядомага рэферэндуму па сімволіцы і да т.п. і выбараў у Вярхоўны Савет, але па збегу абставін не трапіла ў друк. Здавалася б, час мінуў, і павінны былі б змяніцца ацэнкі падзей і прагнозы на будучае. Аднак жа выношу гутарку на аўдыторыю, бо перакананы: у плыні бягучых падзей і апантанай барацьбы нельга забывацца пра кантэкст больш шырокі — кантэкст, скажам так, гісторыі і ягоны ўплыў на дзень сённяшні. Напэўна, менавіта гэта маюць на ўвазе, калі кажуць: "У гісторыі свая логіка".***

**Юрась ЗАЛОСКА**

**— У нашых гутарках, Васіль Уладзіміравіч, не адзін раз узнікалі рэмінісцэнцыі наконт "недаразвітасці народа". Вы як пісьменнік даволі хутка набылі папулярнасць і мелі магчымасць бачыць, як ставіцца да пісьменнікаў за мяжой і ў нас. Ці не было ў вас шкадавання, што вы — пісьменнік вось гэтага народа?**

— Юрась, я скажу, што для мяне даўно ўжо з'явяліцца праблемай само існаванне "народа"... Асабліва цяпер я пачынаю думаць, што пакуль мы шчыравалі "дзеля народа", кляліся імем народа — у нас яго ўкралі. Засталася нейкая нацыянальная эліта, а нацыянальнай, народнай асновы — не стала. Не стала народа. Я гэта гавару баючыся, як нейкае святатацтва, як у ранейшыя часы гаварылі пра д'ябла і Бога. Але сапраўды, калі мы гаворым "народ, беларускі народ" — то гэта ўвогуле абстракцыя, гэта — па інерцыі. Калі ж канкрэтней паспрабаваць сабе ўявіць, а дзе ён, гэты народ, дзе яго часткі ці хоць бы нейкая значная частка? Раней гэта было проста: існавала сялянства, яно было моўнай, культурнай, генетычнай, этнаграфічнай і г.д. асновай нацыі. Цяпер сялянства няма. Дзе цяпер сялянства? Дажываючыя пенсіянеры-калгаснікі ў вёсках ці элітныя спецыялісты ў сельскай гаспадарцы (аграномы, заатэхнікі і інш.) — хіба яны могуць уважацца за аснову нацыі? Я вельмі ў гэтым сумняваюся... Дык вось калі культурная эліта развівала культуру — для "беларускага народа", — ЗНІК САМ НАРОД. Горад, урбанізаванае насельніцтва гарадоў, — баюся, гэта ўжо не беларускі народ; яно з Беларуссю нічога агульнага не мае, апроч, хіба што, тэрыторыі пражывання. Менск — горад "беларускі" толькі таму, што ён знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі, а ў астатнім якая яго адрознасць, скажам, ад Смаленска, Цверы, Масквы? Чым ён ад іх адрозніваецца?..

**— Бадай аб'явамі ў метро...**

— Вот іменна — аб'явамі ў метро... І раптам з'явіліся бел-чырвона-белы сцяг і "Пагоня", якія тут жа былі скасаваны — "па волі народа"...

**— Яны, калі папраўдзе, адпачатку псіхалагічна не прымаліся. Мяне даўно дзівіла гэтая спадзяванка БНФ на "народ", які з цягам часу, маўляў, "нацыянальна ўсвядоміцца", ачуняе і падтрымае Адраджэнне. Аднак жа заклікі і палітыка БНФ ані не працавала на пабытовым узроўні — як зараз "не працуе" мова.**

— Вот іменна. І пагэтаму, можа быць, з-за таго і атрымалася цяпер такая параза, што ідэя Адраджэння — ідэя, канечне, правільная, высакародная, ва ўсіх адносінах цудоўная — трапіла не на тую глебу. Вот у чым справа. Можа быць, яна трапіла зарана...

У гэтых абставінах, асабліва ў палітычных абставінах апошняга часу, — адзінае, што, можа быць, застаецца для дзеячаў культуры, — гэта кансерваваць тое, што ёсць — у галіне культуры, нацыянальнай ідэалогіі. Таму што калі і надалей справа пойдзе гэтак жа, то будуць зроблены захады дзеля таго, каб матэрыяльна панішчыць тое, што напрацавана за гэты час: забяруць з бібліятэк, пахаваюць у "спецхраны" выданні Ластоўскага, нацыянал-дэмакратаў, незалежную гістарыяграфію, пэўныя творы мастацкай літаратуры. А ў дадатак будзе разгорнута шалёная кампанія па дыскрэдытацыі — спярша ідэй, затым канкрэтных твораў, а пасля — іх аўтараў. Калі жывых яшчэ можна пасадзіць, то ў нябожчыкаў будуць знаходзіць нейкі кампрамат і таксама бэсціць, для таго каб скасаваць іх прыцягальны імідж. Гэта будзе зроблена, таму што камуна-фашызм абавязкова пакарыстаецца такімі метадамі. Інакш чым жа ён будзе карыстацца? Праўда — не іх рэлігія. Іх рэлігія — бязмежная хлусня. Чым яна бязмежней, тым лепш. Для нашых кіраўнікоў гэта вельмі здатны і плённы прыём...

**— Чым асабіста вы ратуецеся ў такой сітуацыі: пісьмовым сталом, дачай?**

— Нічым я не ратуюся. Кідаюся так, туды-сюды, чым жа тут можна ўратавацца — ў такі час? Як пісаў адзін разумны расейскі аўтар: "старость — это одиночная камера знания". У тым, можа быць, і паратунак, — каб ведаць. Сядзець у гэткай "адзіночнай камеры ведання" і ўсё ўспрымаць належным чынам. Гэта найперш.

Для мяне параза дэмакратаў на апошніх выбарах (травень 1995 г. — **Ю. З.**) — таксама вялікі боль і няшчасце, але на мяне, як песіміста, яна не зрабіла вялікага ўражання. Я не скажу, што яна мяне сакрушыла, разбіла — я да яе быў гатовы, не чакаў нейкай удачы... Гэта не першая параза. Такая ж была летась, на прэзідэнцкіх выбарах, калі Пазняка не выбралі прэзідэнтам. Але, па шчырасці сказаць, у тых абставінах, у той атмасферы, у тых палітычных, эканамічных і розных іншых умовах я адчуў душэўную палёгку ад таго, што Пазняка не выбралі...

**— ?**

— Таму што чыста па-чалавечы я не жадаў яму блага, я зычыў яму дабра... Я бачыў шчырасць гэтага чалавека, стаўку яго жыцця на поспех беларускай справы; але калі яго не выбралі, а выбралі Лукашэнку, то мы зразумелі, што адтэрмінoўваецца нешта самае страшнае. Няцяжка сабе ўявіць, што было б, калі б яго абралі. Па-першае, ён быў бы знішчаны фізічна. Па-другое, уся яго справа таксама была б ліквідавана — самым жахлівым, крывавым чынам. Таму што нельга ў гэткай абстаноўцы выбіраць такога галоўнага цара, які абсалютна не дастасуецца да яе: ён абавязкова будзе адторгнуты, выкінуты, і не толькі ён, але і яго ідэі, уся ідэя Адраджэння... Мы ж бачым, які хцівы звер стаіць на заднім плане. Вот Лукашэнка — гэта якраз іх чалавек. Ён так ці інакш будзе сваю справу рабіць; ён будзе рабіць яе даўуль, дакуль сваім злом не даканае грамадства, нацыю. Як даканае нацыю, як нацыя стане перад выбарам: або загінуць фізічна, або выжыць і змяніць сістэму, — тады ён будзе таксама адрэчаны.

Час Адраджэння яшчэ не наспеў. І час Народнага фронту не наспеў. Яшчэ толькі мы недзе робім першыя спробы, яшчэ на подступах да гэтага. І дапамога нам у гэтым, як ні дзіўна, — Лукашэнка. З яго радыкалізмамі і фашыстоўскімі замашкамі. Ён падштурхне. Гэта той выпадак, калі, сапраўды, "чым горш, тым лепш". Гэта не значыць, канечне, што я за тое, каб ён паспяхова кіраваў: ён не можа паспяхова кіраваць; але ён вымушаны кіраваць такім чынам, таму што ён не свабодны. Ён выконвае дырэктывы і тэндэнцыі пэўных органаў, найперш расейскіх. Але скончыць ён вельмі кепска... Пэўны стан эканомікі яго ўзнёс, і гэтая ж эканоміка яго нізвергне, таму што ён з ёю не зладзіць. Зрэшты, з такой эканомікай не зладзіць ніхто, я ўжо гаварыў гэта ні адзін раз. Ні Гасподзь Бог, ні анёлы не могуць упарадкаваць такую эканоміку, пакольні яна — параджэнне нячыстай сілы. Яна павінна памерці, ператварыцца ў тло, глебу, з якой народзіцца новая эканоміка, якая, я не ведаю, але яна павінна нарадзіцца. Нельга ж эканоміку стварыць указамі ці дэкрэтамі. Яна — жывы арганізм чалавечага існавання. І ён павінен марудна вырасці, як вырастаюць дзіця, кветка, расліна. Каб нармальна функцыянаваць у інтарэсах людзей, нешта павінна вырасці натуральным чынам. А на глебе атручанай сацыялістычнай эканомікі такая кветка вырасці не можа...

**— Баюся, Васіль Уладзіміравіч, што, каб пераадолець спадчыну сацыялізму, — тут чалавек, мусіць, не здольны нешта выправіць; тут, відаць, без другога прышэсця не абысціся...**



— Можа, і так. На гэты конт я цёмны чалавек. Я не ведаю, не магу нічога прадбачыць. Як не можа прадбачыць ніхто, хоць людзі заўсёды вызначалі пэўны накірунак. Аднак усе тыя "вызначальнікі" вельмі хутка банкрутавалі. Сёння сумленны чалавек можа толькі развесці рукамі, а калі нехта паказвае, куды "трэба" ісці, то гэта альбо авантурыст, каторы робіць тое ў карыслівых мэтах, альбо проста недалёкія людзі, каторым здаецца, што яны нешта ведаюць. На самай справе ўсё гэта вельмі цьмяна, таму што, па-першае, чалавек сам сябе не ведае, а па-другое, ён зменлівы... Здаецца, Пазаліні ці Антаніёні, нехта з іх, зняў фільм на антычную тэму, нешта з жыцця Нерона. Пасля ў рэжысёра спыталіся, што самае цяжкае: аднавіць дэкарацыі тагачаснага жыцця ці рэканструяваць псіхалогію антычнага чалавека. Ён адказаў, што самае цяжкае — аднавіць псіхалогію, таму што псіхалогія змянілася. У мастацтве гэта ўвогуле амаль немагчыма. Элементарны прыклад, каторы прыходзіць на памяць: Сенека. Яму імператар выказаў сваё незадавальненне. Што зрабіў Сенека? Пайшоў змагацца супраць імператара? Не, ён пайшоў дамоў і выпіў цыкуту — ад таго, бачыце, што імператар яго разлюбіў...

**— Вы ўсё-такі дазваляеце сабе разважаць над такімі рэчамі, як другое прышэсце?**

— Пра гэта я нічога не думаў, я кажу, што цёмны ў гэтым сэнсе чалавек...

**— Тады застаецца палітыка: пра палітыку разважаць і гаварыць звыклей. Ужо даўно чуваць развагі, што, маўляў, галоўная бяда Беларусі — у тым, што ў яе няма агульнанацыянальнага лідэра. Вы верыце ў такі сродак вырашэння нашых грамадскіх праблем?**

— Яшчэ кажуць — у палітыцы трэба прафесіяналы. Баюся, што не прафесіяналы тут патрэбны. У многіх выпадках трэба якраз не прафесіяналы. Трэба проста чалавек з боку. Вядомы даўні выпадак: калі Форд будаваў сваю вытворчую імперыю, узнікла нейкая тэхнічная праблема, і яго спецыялісты не маглі яе вырашыць. Тады ён запрасіў інжынера, які ніколі не меў справы з аўтамабілямі, але лічыўся нядрэнным спецыялістам. І ён хутка вырашыў тую праблему. Чаму? Таму што яго вырашэнне было свабодным ад усяляіх стэрэатыпаў... Так можа быць і ў палітыцы. Трэба найперш чалавек, каторы валодаў бы здаровым сэнсам. Вось калі ўзяць, дапусцім, Масарыка, ён мне вельмі даспадобы. Мне здаецца, у нас мала вывучаюць вопыт міжваенных дзяржаў, Польшчы, Чэхаславакіі, Венгрыі, Аўстрыі... Тады, пасля Першай сусветнай вайны, у лідэры прыйшлі вельмі сімпатычныя людзі — і ў Чэхаславакіі, і ў Польшчы. Хай генерал, маршал — Пілсудскі, — але як жа ён адбудоўваў Польшчу ў тых умовах! Яны не былі "прафесіяналамі ад палітыкі", але, тым не менш, паспяхова будавалі свае нацыянальныя дзяржавы. Чэхі памятаюць народнасць, прастату Масарыка. Пры ім міністры ездзілі на працу на трамваі — не таму што не маглі пакарыстацца персанальным аўтамабілем, а таму, што гэта было непрыстойна. І небагатыя яны былі людзі. Яны служылі найперш нацыі, таму так сябе паводзілі. А нашыя каму служаць?...

**— Сёння мы кажам пра расслаенне нацыі; то ці можа быць у такіх умовах універсальнай каштоўнасцю "здаровы сэнс"?**

— "Здаровы сэнс" сёння нацыяй страчаны, і гэта прыкра...

**— Нават у палякаў, якія, па сутнасці, распачалі змаганне з камунізмам у сацыялістычным лагеры — пры канцы 70-х, — зараз няма агульнанацыянальнага лідэра. Былыя камуністы цягнуць за сабой ладную частку грамадства...**

— Таму што дыферэнцыяцыя грамадства адбывалася. У цэнтральнаеўрапейскіх дзяржавах былі, канечне, свае супярэчнасці, але раней іх нацыі былі нечым з'яднаныя больш, чым цяпер, скажам, тая ж Польшча. Вот калі туды прыйшлі камуністы, дык, натуральна, яны перш за ўсё выкарысталі ўсе сродкі, каб нацыю раскалоць на кавалкі. Таму што толькі ў такім стане яны здольныя ўтрымліваць уладу. І яны за пяцьдзесят гадоў гэта зрабілі. А да камуністаў нацыя была з'яднаная. Нават немцы, акупаваўшы Польшчу, не змаглі (ці не схацелі, як часам кажуць) стварыць там масавую калабарацыю і ўгодніцкае самакіраўніцтва. Гэта ж пра многае сведчыць. Праўда, там былі касцёл, рэлігія, што аб'ядноўвалі нацыю. А ў нас нават і рэлігія не можа аб'яднаць, таму што ва ўмовах двухканфесійнасці якое можа быць аб'яднанне? Ды яшчэ драбленне па сацыяльным стане, нацыянальнай прыналежнасці, іншае...

**— Камунізм захапіў Беларусь суцэльна...**

— Ён, камунізм, увесь час імкнуўся трымаць народ у нейкім маналітным лагеры, не зважаючы на нацыянальнасці. Было адно вялікае дзяленне на камуністаў і беспартыйных (як у Афрыцы — на белых і чорных). У той час як камуністы валодалі ўсімі правамі і магчымасцямі, беспартыйныя не валодалі і іх палавінай... Ідэалагічны таталітарызм выхоўваўся ці не з дзіцячага садка — акцябраты, піянеры, камсамольцы... Гэта былі, па сутнасці, сапраўдныя дзяржаўныя секты, з іх унутранай ідэалогіяй і дысцыплінай. Тое было ў інтарэсах дзяржавы і партыйнага кіраўніцтва...

**— Але зноў-такі, за апошнія дзесяць гадоў "галоснасці" столькі напісана пра рэпрэсіі, ГУЛАГ, што дзіву даешся, як грамадства — "самае чытэльнае" — не баіцца паўтору таго, што было пры савецкай уладзе — вынікі апошніх выбараў сведчаць пра тое... Чаму ж людзі нічога не баяцца?**

— Яны нічога не баяцца, таму што грамадства па-ранейшаму застаецца неінфармаваным. Як вядома, на пачатку перабудовы гучала шмат патрабаванняў (з боку расейскіх дэмакратаў), каб кампартыя пакаялася ў злачынствах, адмовілася ад свайго злачыннага мінулага. Гэтага не было зроблена. Усе хрушчоўскія выкрываннi сталінізму былі частковымі, бо пералічваліся толькі імёны рэпрэсаваных маршалаў і кіраўнікоў, — а пра народ — маўчалі. Таму ў масавай свядомасці рэпрэсіі так і засталіся рэпрэсіямі кіраўніцтва супраць кіраўніцтва, а не ўлады супраць народа....

Колькі разоў Алесь Адамовіч заклікаў "дадумваць да канца"! А ў нас гэта ніяк не дадумана. Канцы і пачаткі нашай бяды дзесьці ў Кастрычніцкай рэвалюцыі, а можа, і яшчэ раней... І прычына нашай галоты не

*(Працяг на стар. 12)*

Віншуем!

# НА ВАСТРЫІ ПЯРА — ЖЫЦЦЁ

## Анатолю КАЗЛОВІЧУ — 50

Рэдка які празаік, сустракаючы сваё 50-годдзе, можа пахваліцца такой колькасцю кніг, колькі іх мае Анатоль Казловіч. Адзін пералік нямала займае месца: "Дыханне", "Что открывает "колумбик". Цеховые будни" (абедзве 1977), "Пора идти" (1979), "Далеко впереди" (1981), "Дитя мое золотое" (1984), "Трудно любить" (1985), "Рассвет" (1986), "На моей ладони линия реки" (1987), "Место под солнцем" (1988), "Красный остров" (Масква, 1988), "Собственный корреспондент" (1989), "Если бы да кабы" (1994)... Сярод іх і звычайныя зборнікі нарысаў, калі прытрымлівацца строгага жанравага вызначэння, і дакументальныя аповесці, аповесці публіцыста, сучасныя драмы — а менавіта так прыпадносіць чытачу асобныя творы аўтар, і нават аўтабіяэкалаграфічны раман, як пазначана ў падзагалоўку апошняй па часе выхаду кнігі, што, дарэчы, сёлета вылучана на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.

Сам жа я далёкі ад жадання заглыбляцца ў сутнасць гэтай жанравай размежаванасці — хай тэарэтыкі літаратуры спрачаюцца, дзе ў А.Казловіча традыцыйны нарыс, дзе нарыс-партрэт, а што несумненна "цягне"на дакументальна-мастацкую прозу. Далёкі, бо для мяне даўно няма сумніву: А.Казловіч — ПРАЗАІК. Падкрэсліваю: празаік, а не пісьменнік-дакументаліст. А гэта значыць, што тое, што напісана ім (а ў далейшым, думаецца, напішацца яшчэ вельмі і вельмі шмат, бо і ўзрост такі, калі, як кажуць, сама пісаць, ды і яго творчай актыўнасці можна толькі пазайздросціць), акурат і падпадае пад вызначэнне мастацкая літаратура без якіх-небудзь агаворак ці тлумачэнняў. Канечне, з прывязанасцю да пэўных фактаў, канкрэтных рэаліяў, хоць часам пісьменнік і вымушаны мяняць асобныя прозвішчы, не ўдакладняць сапраўднае месца дзеяння.

Праўда, А.Казловіч, як і кожны празаік, не адразу (і гэта заканамерна) стаў ім. Усё тым больш відочна цяпер, калі ёсць магчымасць акінуць позіркам здзейсненае ім. Пачынаючы з першай, зусім невялікай памерам кніжкі "Что открывает "колумбик..." Дарэчы, відаць, і нямногія ведаюць, што сабой гэты "калумбік азначае. Не ведаў і А.Казловіч, пакуль не ўладкаваўся на Мінскі станкабудаўнічы завод імя С.М.Кірава... кантралёрам. Для лепшага азнаямлення з заводскім жыццём. Пра змену прафесіі тагачаснага маладога газетчыка ведала толькі кіраўніцтва прадпрыемства, для астатніх жа ён заставаўся звычайным кантралёрам. Якраз тады А.Казловіч і пераканаўся, што "в готовой детали "колумбик" открывает размер, а в человеке, сделавшем деталь, — многое, многое другое..."

Дзеля гэтага "многого, многого другого..." ён і стаў кантралёрам АТК. Памяняў прафесію і акунуўся ў праблемы, якія ва ўсёй значнасці можна адчуць толькі тады, калі сутнасць іх у нечым спазнаеш, як кажуць, і на ўласнай скуры. Між іншым, А.Казловіч і яшчэ раз мяняў прафесію, калі ў час жніва працаваў памочнікам камбайнера. З вышыні сённяшняга дня гэта можна ацаніць па-рознаму. Сёй-той гатовы паставіцца да ўсяго і негатыўна — маўляў, у духу часу працаваў, а ў нечым і кан'юнктуру яго адчуваў. Папракнуць чалавека лёгка, куды цяжэй — не мною сказана — зразумець. А паспрабуеш зразумець, адразу адчуеш — далёка не кожны журналіст здатны на падобнае, пераважная большасць гатова задавальняцца толькі тым, што ляжыць на паверхні. І, прызнацца, яны, калі маюць талент, дасягаюць часта значнага поспеху. Ва ўсякім разе, іх асобныя нарысы-партрэты, калі адкінуць розную "траскатню", і цяпер чытаюцца.

Аднак А.Казловіч на падобнае пайсці не мог. Бо не ў яго характары гэта было. Бо нічога не хацеў (і сёння не хоча!) браць на павер. Бо такую натуру меў (і мае!) — актыўную, наступальную, а ў нечым і задзірыстую. А хіба для журналіста, а пісьменніка тым больш, кепска, калі ён у адстойванні сваёй пазіцыі, у жаданні дакапацца да ісціны свядома і ў рожкі ідзе? І прытым не зважаючы на начальства. І пры гэтым, як правіла, выклікаючы на сябе агонь. І прадчуваючы, разумеючы, што чакаецца "абарона", якая задоўжыцца і папсуе шмат нерваў і здароўя, безумоўна, не прыбавіць.

Але я крыху ўхіліўся ад гаворкі пра першую кнігу А.Казловіча. Канечне, яна прагучала. І дала маладому аўтару нямала дывідэндаў. І сам нарыс быў прыхільна сустрэчы, і, вядома ж, пасля гэтага не змаглі не звярнуць на яго ўвагу як на пісьменніка перспектыўнага. Ды тое тады было, а цяпер... Цяпер я не атрымліваю ад "калумбіка" таго задавальнення, якое меў некалі. "Калумбік" сваю справу зрабіў і "калумбік" застаўся звычайнай прыладай. Няхай так па-майстэрску і выкарыстанай аўтарам. Нарыс, пры ўсім, быў зашмат прывязаны да канкрэтных падзей. Яшчэ не адбылося (гэта ўжо з маіх сённяшніх агледзін) выхаду на праблемы, якія тычацца больш шырокага дыяпазону. Выхад жа гэты прысутнічае ў нарысе "Верцялішкі", адным з лепшых у кнізе "Дыханне". А.Казловіч не пабаяўся ўбачыць негатыўнае ў добра вядомым на той час калгасе "Прагрэс" Гродзенскага раёна.

Тады ўбачыў, а цяпер кожнаму відочна — прадбачыў, да чаго можа прывесці імкненне... пакрасавацца. Няхай і з найлепшымі намерамі: "...узвялі на цэнтральнай плошчы фантан, адпаведна з'явілася ў вёсцы новая пасада — "наглядальнік фантана"... Кагосьці паставілі падстрыгаць газоны, кагосьці падмятаць вуліцы... А колькі людзей трэба, каб прыбраць грамадзіну Палаца культуры: памыць падлогу, працерці вокны, пачысціць дываны!.. Рэстарану патрэбны повары, афіцыянткі, гардэробшчыкі і зноў жа прыбіральшчыцы. Дому быту — швачкі, цырульнікі, фатографы, прыёмшчыкі, загадчык; магазінам — прадаўцы..."

Памятаю, як у свой час высока ацэньваючы гэты твор А.Казловіча, я ці не з радасцю канстатаваў, што ўсе гэтыя праблемы цяпер у Верцялішках паспяхова вырашаны. І нагадваў, што яны паўстануць у іншых мясцінах.Праўда, тут жа канстатаваў: "Сучаснае сяло, хочам мы таго ці не, набліжаецца да горада". І тым самым унутрана як бы спрачаўся з А.Казловічам. А не спрачацца трэба было, а пагаджацца, бо, як бы прыгожа ні выглядалі Верцялішкі ў тым выглядзе, у якім былі задуманы і якімі сталі, яны непатрэбны. Усё гэта штучнае, далёкае ад зямлі, а значыць і непатрэбнае людзям, якія жывуць і працуюць на зямлі. Іншая справа, калі стварыць ім умовы, каб маглі, пры неабходнасці, своечасова і хутка дабрацца ў горад, раённы цэнтр.

З А.Казловічам, цяпер, на адлегласці часу, у многім трэба "раіцца". "Раіцца", перачытваючы яго даўнія творы. І "Вялікае перасяленне ў Борску" (яно каштавала яму многіх нерваў, бо згаданы Борск ні што іншае, як родная вёска пісьменніка Горск з Бярозаўскага раёна, а землякі, пазнаўшы сябе, такое распачалі!), і "Закон слова" з кнігі "Дитя мое золотое"... З "хронікі неперспектыўнай вёскі", а такі падзагаловак і мае першы са згаданых нарысаў, на маю думку, і пачаў А.Казловіч-празаік. І гэта прытым, што, калі перачытваеш твор, нельга не заўважыць, што скразны сюжэт, як адна з умоў ці то апавядання, ці то аповесці, адсутнічае. Але відаць іншае, што і дазваляе гаварыць — проза гэта. Гэта ўменне (і здатнасць) пісьменніка ствараць яркія, каларытныя характары, а праз іх тонка адчуваць пульс часу. Ды не той, які імкнуліся "рэгламентаваць" партыйныя кіраўнікі, а пульс самога жыцця як катэгорыі вечнай, што не паддаецца нейкім рэгламентацыям, паколькі яно прытрымліваецца сваіх, адзіна правільных законаў. Умяшанне ў іх, калі гэта робіцца прымусова, да дабра не прыводзіць.

У нарысе ж "Закон слова" (па аўтарскім вызначэнні, першым раздзеле "аповесці публіцыста") ёсць і яшчэ адно вельмі важнае ўменне, без якога сапраўдны празаік немагчымы: адчуванне слова. А слова ж шмат можа, і слову многае дадзена. У дадзеным выпадку магчымасць заінтрыгаваць чытача:

"На рабочем столе автора зазвонил телефон.

— Это краснобай говорит, — услышал я в телефонной трубке.

— Кто?!

— Ваш краснобай звонит.

И тут до меня дошло:

— А, это вы, Лев Анатольевич. Здравствуйте!

— Можно к вам приехать? Поговорить.

— Пожалуйста. Жду вас.

Через двадцать минут он был у меня. Чрезвычайно подвижный толстяк: когда перед вашим взором двигается что-то большое и массивное, то всегда кажется, что оно двигается быстрее, чем ему положено, и тем самым подвергает себя повышенной опасности. Хочется его предостеречь: осторожнее!..

Лев Анатольевич проворно протиснулся в кресло. Он ловко управлял своим крепко сбитым телом. Лицо у него было холеное, выглядел он свежо. Говорил с подначкой, в глаза собеседнику не смотрел.

— Мы люди деревенские, глупые, — начал он, — мы ничего не понимаем. Так я пришел узнать: что такое краснобай?

Он разыгрывал дурачка. Умного, снисходительного. Улыбочка его была вежливой, ехидной. Глаза остановились на дальнем углу кабинета и не двигались".

І адразу адчуваеш, наколькі А.Казловіч умее дакладна падаць чалавека. Праз ледзь улоўныя штрышкі паўстае ён буйным планам. Здавалася б, гэты "балака" пакуль нічога і не сказаў, а ўжо разумееш — ён здатны на ўсё. Абы толькі самому карысць была. Як высвятляецца, згаданы "краснобай" (а пад такой назвай гэты нарыс поруч з іншымі і ўвайшоў у маскоўскую кнігу А.Казловіча "Красный остров") пайшоў на тое, каб угаварыць усіх выпускнікоў сярэдняй школы застацца ў роднай вёсцы, паабяцаўшы ім ледзь не залатыя горы. А ўсё дзеля паказухі, якая была ўхвалена і раённым кіраўніцтвам.

Пішучы нарыс, А.Казловіч змагаўся за тую праўду, якая на той час афіцыйнай ідэалогіі непатрэбна была. Ды і навошта яна там, дзе пануюць прыгожыя словы, а лозунгавасць становіцца нормай жыцця? А лозунгі што? Дэкларацыі, якія ні да чаго не абавязваюць. Праходзіць час і — старыя забываюцца, з'яўляюцца новыя. І гэтаксама безаблічныя, пуставата-гучныя.

Такім было наша жыццё, гэткімі былі і мы самі. І не задумваліся, што не жывём, а за нешта ўвесь час змагаемся. А Казловіч — задумваўся. Задумваўся нават тады, кадi пісаў, здавалася б, ці не самы свой "правільны" нарыс "Чырвоны востраў". Здавалася б, у якім яшчэ яго творы, а ў гэтым арыенціроўка ідэалагічна вытрыманая. Пісьменнік неяк прачытаў тэлеграму, пасланую ў свой час удзельнікамі Маладушскай валасці Рэчыцкага павета Леніну. Яны паведамлялі, "што сяляне хутара Ляснога Вострава перайменавалі сваё паселішча ў Чырвоны Востраў і гэтым даказалі, што яны стаяць на варце заваёў рэвалюцыі". А.Казловічу і захацелася наведацца ў той самы Чырвоны Востраў. Як жа здзівіўся ён, калі даведаўся, што пра такую назву ў тамашніх мясцінах ніхто і не ведае. Як быў Лясны Востраў, так і застаўся Лясным Вострава м і што самае цікавае — гэта і на самай справе быццам" востраў" — невялічкая вёсачка адарвана ад свету і людзей. Расказвае А.Казловіч пра "астраўчан" і падтэкстава адчуваеш (не можаш не адчуць!) яго грамадзянскі неспакой. І зусім не з-за таго, што аніякага Чырвонага Вострава няма, а неспакой з-за нашай звычайнай абыякавасці, калі зноў жа людзі цэлай вёсачкі ператвараюцца ў "неперспектыўных"...

Я не хачу сказаць, што ў творчасці А.Казловіча не было выпадкаў, калі яму даводзілася ўдакладняць свае колішнія меркаванні, у нечым карэкціруючы іх, а то і адмаўляцца. Ды і гаварыць гэта мне няма аніякай патрэбы. Зазірніце ў кнігу "Собственный корреспондент", "Если бы да кабы"... Там знайшлося месца ў аўтарскіх адступленнях і самааналізу. Па-грамадзянску мужнаму, па-пісьменніцку бескампраміснаму. І зроблены ён дзеля аднаго — у імя пошуку ісціны, а яна, як вядома, не можа заставацца аморфна-застылай. А сам чалавек пастаянна жыве ў сваім часе і хоча таго ці не, а ў многім на сваіх поглядах, паводзінах нясе яго адбітак. Іншая справа, што чалавек сумленны, калі ў нечым памыляўся, гатовы ў гэтым прызнацца. І А.Казловіч таксама прызнаецца. І ў прыватнасцях ("чтобы не выглядеть героем, я должен признаться, что в моей первой книге "Что открывает "колумбик" я насчитал около десяти цитат "мудрого", "уважаемого" Леонида Ильича"), і ў больш істотным, калі справа тычыцца стаўлення да меліярацыі... Ёсць жа тыя, хто не можа дараваць яму таго, што на пачатку журналісцкага шляху А.Казловіч так наступальна супраць яе не выступаў. Вось толькі пытанне ў адным: а ці мог ён так выступаць? Ці ведаў тое, што ведае сёння? Ці перажыў, да чаго можа прывесці спрамленне рэк, пакуль не ўбачыў вынікаў гэтага ў родных мясцінах?

Творчасць А.Казловіча дае багатую спажыву для роздуму, а ці не гэта найлепшае пацвярджэнне таго, што нашу літаратуру, нашу прозу немагчыма сёння ўявіць без яго прысутнасці? І чым больш развaжаеш, тым больш пераконваешся, усведамляеш: ім на сённяшні дзень не проста шмат напісана. Ёсць падставы гаварыць і аб школе дакументалістыкі А.Казловіча, як бы каму-небудзь таго не хацелася. Так, ён празаік, але сваёй прозай ён спрыяе развіццю і ўдасканаленню менавіта той плыні яе, якая звязана з нашым хуткаплынным жыццём, абапіраецца на яго і жывіцца ім. А яшчэ дапамагае гэтае самае жыццё ў нечым як бы палепшыць, праграмуючы, якім яно мусіць быць.

Дарэчы, наконт гэтага цікавыя развагі А.Казловіча ў яго кнізе "Собственный корреспондент". Палемізуючы з апанентамі, ён, магчыма, і не ставячы таго за мэту,



закранае і пытанні тэарэтычнага кшталту. Прынамсі, якой быць публіцыстыцы на сённяшні дзень: "Нужно писать историю современности. Не ждать, пока уйдет время, сотрутся детали. Нужно сегодня писать политические портреты тех, кто действует и "за", и "против", кто вышел на арену жесткой политической борьбы". Праўда, сказана гэта з прывязкай да пэўных рэалій, што мелі месца ў нашай рэспубліцы, калі ў канцы 80-х гадоў актывізаваліся сілы, што выступалі супраць дэмакратычных пераўтварэнняў. Ды хіба гэта не актуальна сёння?!

У рэшце рэшт сам А.Казловіч ніколі пра такую задачу і не забываў. У правільнасці падобнага меркавання найбольш пераканалі апошнія гады, калі асабліва ярка праявіўся яго не толькі пісьменніцкі, але і арганізатарскі талент. Апошняе засведчыла яго праца на пасадзе галоўнага рэдактара газеты "Новая зямля", калі новае выданне літаральна адразу набыло свой твар. А свой — значыць канкрэтны, а не нейкі безаблічны, Што і дорага каштавала А.Казловічу — давялося пакінуць пасаду. Ды было б жаданне па-сапраўднаму працаваць, сёння ёсць дзе прыкласці свае магчымасці. Цяпер, як вядома, ён з'яўляецца галоўным рэдактарам штомесячніка "Круг". І зноў жа — гэтае выданне не зблытаеш з іншымі. І справа зусім не ў пазіцыі — тут яна, несумненна, у кожнага свая. Важна і тое, як па-журналісцку прафесійна, умела падаюцца матэрыялы...

А наконт таленту пісьменніцкага... Пакуль чарговая кніга чакае свайго часу ў выдавецтве, А.Казловіч рэгулярна выступае ў перыёдыцы. Думаецца, у многіх на слыху яго вострыя матэрыялы з цыкла "Беларусы паміж небам і зямлёй", якія спачатку друкаваліся ў "Народнай газеце", а пасля ў "Народнай волі". Ды і выступленні А.Казловіча ў "Литературной газете", а ўласным карэспандэнтам гэтага выдання па Беларусі ён з'яўляецца з 1977 года, з тых, якія нельга не прачытаць.

Кажаце, у сваіх меркаваннях, ацэнках ён часам залішне рэзкі, катэгарычны? Не з усім можна пагаджацца? А хто вас заклікае да гэтага? Прызнаюся шчыра: сёе-тое і я не прымаю. Ды што з гэтага? Гаворка ж не пра тое, падзяляць пазіцыю ці не падзяляць. Важна іншае — ёсць пісьменнік ці няма. У дачыненні да А.Казловіча, як чытач змог пераканацца, гэтае пытанне інакш як рытарычным успрымаць нельга. І ўступленне А.Казловіча ў пару сапраўднай сталасці — гэта толькі падсумаванне першага, няхай і важнага, жыццёвага і творчага перыяду. Наперадзе ж, несумненна, чакаюцца новыя. І верыцца, што яны таксама будуць надзіва плённымі, што А.Казловіч не страціць усяго лепшага, што мае сёння, і набудзе новае, бо наўрад ці можна знайсці мяжу дасканаласці таленту, калі ён такі жыццядайны. А як пісаць і што рабіць, ён гэта ўжо добра ведае. І не па падручніках ва універсітэце, як вядома, гэтаму навучыўся. А навучыўся, бо чалавек ён прагавіты да пазнання, напоўнены жаданнем пісаць гісторыю сучаснасці; "Космос рядом с нами, коллеги, — мир человека. Он нами пока не открыт. А там сегодня происходит невиданное. Иди и смотри, журналист..."

Сказана не столькі як напамінак іншым. Засведчана і як асабістая мастакоўская задача на бліжэйшы час, на той час, што пачынае ўжо вымярацца другім паўстагоддзем твайго жыцця.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## У ГОСЦІ ДА ДЗЯДЗЬКІ ЯКУБА



**Сёлета свята Беларускага пісьменства і друку супала з 90-годдзем пачатку творчай дзейнасці Якуба Коласа. Адзначыць гэтую падзею да помніка песняру прыйшлі пісьменнікі Генадзь Бураўкін, Мікола Мятліцкі, дырэктар нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны Адам Мальдзіс, народны артыст Павел Дубашынскі, унучка Якуба Коласа, прэзідэнт дзіцячага фонду "Сакавік" Марыя Міцкевіч, дырэктар музея Я. Коласа Зінаіда Камароўская і старшы навуковы супрацоўнік гэтага музея Іван Курбека, выкладчыца БДУ Вольга Казлова. Яны расказалі прысутным пра жыццёвы і творчы шлях Якуба Коласа.**

**Не абышлося на свяце і без музыкі і песень — выступілі студэнты Беларускага інстытута культуры.**

**Ала САПУН,**
**вучаніца 98-ай сярэдняй школы Мінска**

*Фота М. БАНДАРЫКА*

## ПАМЯЦІ ВАСІЛЯ ПРАСКУРАВА

**У Ганцавіцкай раённай бібліятэцы прайшоў вечар, прысвечаны 70-годдзю з дня нараджэння лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, заслужанага дзеяча культуры Васіля Праскурава. Васіль Фёдаравіч родам з-пад апетых Купалам Ляўкоў, што на Аршаншчыне, але лёс свой звязаў з ганцаўскай зямлёй. Тут нараджаліся яго цудоўныя нарысы. Дзякуючы В. Праскураву, праходзілі школу прафесійнага майстэрства сёння вядомыя пісьменнікі М. Рудкоўскі, В. Гардзей, А. Каско, А. Кажадуб, У. Марук, С. Алексіевіч, І. Кірэйчык, М. Антаноўскі...**

**Пра Васіля Фёдаравіча на вечарыне з прыязнасцю гаварылі яго сябры А. Шостак, М. Кунцэвіч, зямлячка Э. Міцкевіч, В. Гардзей, карэспандэнт газеты "Савецкае Палессе" К. Мохар, родныя і блізкія, чытачы, прадстаўнікі райвыканкама, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь А. Свірыд.**

**Жыве памяць пра цудоўнага пісьменніка, журналіста, чалавека ў Ганцавічах. Былая Пралетарская вуліца стала вуліцай В. Праскурава. Па рашэнні Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 29 сакавіка сёлетняга года яго імя прысвоена Ганцавіцкай цэнтральнай райбібліятэцы, а на доме, дзе ён жыў, і на будынку рэдакцыі адкрыты мемарыяльныя дошкі.**

**Г. КУРБАНАВА**

## КНІГА, ЯКАЯ НЕ СТАРЭЕ

**Менавіта так можна сказаць пра раман народнага пісьменніка Беларусі І.Шамякіна "Глыбокая плынь". Ён быў напісаны Іванам Пятровічам яшчэ ў гады яго мастакоўскай маладосці і для свайго часу з'явіўся наватарскім, паколькі гэта было вельмі праўдзівае слова пра мінулую вайну. Невыпадкова, што "Глыбокая плынь" перакладзена на многія мовы, а цікавасць да твора не паслабляецца. Рэкамендаваны твор і для вывучэння ў школе, таму ён неаднаразова перавыдаецца. Толькі што з'явілася яшчэ адно выданне "Глыбокай плыні", гэтым разам у выдавецтве "Мастацкая літаратура". Прадмову "Глыбокая плынь жыцця" напісаў Алесь Марціновіч.**

Віншуем!

# "ЖЫВУ НА ЗЯМЛІ..."

## Сяргею ЗАКОННІКАВУ — 50

Апошнія дні летніх вакацый. Вісну́ць на дрэвах гарадскія хлопцы, трушчаць каштаны... Па сённяшнім часе большасць з іх так і не выбралася за лета за межы горада, тры нічым не занятыя месяцы на асфальце... Пыл, загазаванае паветра, пажоўклая трава... Тэлевізійная страляніна, гвалт. Баевічкі, нудотна-дурнотныя серыялы.

І ўжо не першым разам прыходзіць мне ў галаву думка: якія ўсё ж мы былі шчаслівыя, тыя, хто рос у вёсцы, у невялікім гарадку. Хай сабе і нясыта, і ў нялепшы гістарычны час, аднак у нас заўсёды было не замглёнае смогам неба над галавой і раскоша лясоў, палёў, рэчак, азёр. Прастора... Нават калі гэта быў "даважак да будзённага клопату", як згадвае пра сябе паэт Сяргей Законнікаў, а ўсё ж — "прыгажосць, спрадвечная значнасць роднае зямлі ўваходзілі ў душу... самі па сабе..."

І ў кожнага з нас было тое "райскае дрэва", пра якое згадвае Сяргей Законнікаў — дарэчы, і кніга яго эсэістычна-публіцыстычнай прозы мае назву "Вячэра пад райскім дрэвам". І ёсць там старонкі, дзе мы перш-наперш адчуваем Законнікава-паэта, яго злагадную сувязь са светапарадкам, вытокі яго паэтычнага і чалавечага вопыту, яго карані — яны, па словах паэта, ад таго "райскага дрэва на беразе "ракі вады жыцця", што цячэ ад прастола Бога". А канкрэтна — ад тых, здавалася б, звычайных вячэр пад яблыняй-райкай, "райскім дрэвам", калі маці будучага паэта ўладкоўвала "двухвядзёрны чыгун — сыпала крупы, бульбу, морквіны, цыбулю", а вакол збіраліся малеча і падлеткі і "пакуль варыва булькацела, паравала ў чыгуне, тыя дзеці, якія ўжо навучыліся грамаце, чыталі па чарзе пры святле цяпельца цікавыя кніжкі астатнім". Маці паэта і яго бацька — дырэктар школы — ведалі, як неўпрыкмет спалучыць матэрыяльнае і духоўнае, дзе весці гаворку нібыта проста пра цікавае, а на самай справе — пра галоўнае, існае, сутнаснае. Так і ўяўляеш сабе гэтыя вечары: увесну — калі яблыня "адчайна, безаглядна шчодрыцца густою квеценню", улетку — калі яна "дорыць маленькія чырвоныя плады", яркай восенню — калі ўсё наваколле спраўляе свята развітання з цяплом, сёлетняй лістотай, сёлетнім ураджаем. "Люблю сады не толькі ў светлым маі", — скажа паэта.

Так, Сяргей Законнікаў з тых, шчаслівых, што ведалі "радоўку", — пасвілі кароў па чарзе, мелі заўсёдны гаспадарчы клопат, але — і ведалі водар зямлі, не забранай асфальтам, зазналі ні з чым не параўнаную таямніцу вясковага дня, "у празрыстым спляценні сонца, траў, каласоў".

Незадоўга мне давялося згадваць, што пазначанае некалі Сіпаковым "усе мы з хат" нельга лічыць адзіным і неаспрэчным момантам адліку быцця і творчасці, але — менавіта так — **адзіным**, таму што сам па сабе гэты знак-сімвал, гэты выток даў не аднаго творцу — з жыццядайным запасам трываласці таленту, неаспрэчнай, вякамі пазначанай, але заўсёды новай і свежай значнасцю ўспрымання рэчаіснасці.

У Сяргея Законнікава менавіта такі — знаёмы, традыцыйны для беларускай паэзіі пачатак.

**Зямля мая,**
**ты для мяне —**
**як дзіва.**
**Як першы дотык**
**любае рукі.**
**Як у спякоту**
**млосную ільдзінка.**
**Як на кашулі белай**
**васількі.**



*Сяргей Іванавіч з маці Валянцінай Федараўнай. 1989 год.*
*Фота А. КАЛЯДЫ*

Сяргей Законнікаў упэўнены ў першапачатковай цэласнасці свету, гарманічнасці, неабвержнай наканаванасці светапарадку. Ён не стамляецца дзівіцца гэтаму, умее не прызвычаіцца да дзіва існавання:

**Я ніяк не прывыкну,**
**Што жыву на зямлі.**

Мы знойдзем у яго ўвесь традыцыйны паэтычны "спектр" — вёснаў, зор, маёвага святла, ранкаў, снягоў, маразоў. Тут — выток яго светаадчування. Свет — прыгожы. Свет суладны. Свет — незвычайны. Хіба вы не бачыце?

**З хат хутчэй выходзьце, людзі...**
**Сад цвіце.**
**Ён кліча вас.**

Знойдзем мы ў яго і "чаромхавыя вёсны" кахання:

**Пахнуць світальнай чаромхай**
**Цёплыя вусны твае.**

І роздум над тым, што было і застанецца болем — нават і ў тых, што нарадзіліся, як Сяргей Законнікаў, пасля салютаў Перамогі. "Мая вялікая радня, Як скошаная пожня", "Сшывае вэлюм з маладых снягоў Зіма нявестам стлелых Мурагоў".

І — меркаванні пра творчасць, пра суадносіны быцця і вымог паэта:

**Пішаш і слову звычайнаму верыш,**
**Пакуль не прыйшло да цябе адкрыццё,**
**Што самым апошнім**
**праўдзівым вершам**
**Усё ж застаецца тваё жыццё.**

І — думкі пра "спрадвечны круг жыцця", дзе мы, аднак, не знойдзем быційнага неспакою, рэфлексійнасці, трагедыйных адценняў. Логіка жыцця.

**І стаю я, жыццё, прад табой...**
**Ты дарма хмурыш бровы сурова —**
**Ціха**
**вера,**
**надзея,**
**любоў**
**Шэпчуць мне запаветныя словы.**

Так можа сцвярджаць чалавек шчаслівы, надзейна шчаслівы. Добра ўладкаваны. І сапраўды, Сяргея Законнікава, здаецца, лёс аберагаў ад трагедый. Настаўнік у вясковай школе, сакратар райкама камсамола, супрацоўнік раёнкі і сталічных газет, загадчык сектара ЦК КПБ, галоўны рэдактар часопіса "Полымя". Муж прыгожай і адукаванай жонкі, бацька ўдалых дачок. Аўтар цэлага стосу паэтычных кніжак. Лаўрэат Літаратурнай прэміі Саюза пісьменнікаў Беларусі імя Аркадзя Куляшова.

Аднак у паэзіі — не я тое заўважыла — цікавыя ўзаемаадносіны з жыццёвымі няўладзіцамі. Здавалася б, абрынаецца ўся светабудова, пакуты павінны прыцісну́ць паэта да зямлі і прымусіць навекі змоўкнуць. З'яўляюцца ж шэдэўры. Ці — найбольш значныя творы...

Жыццёвым узрушэннем, што дало творчы штуршок, стала для Сяргея Законнікава не

Сяргей ЗАКОННІКАЎ

# "АБДЫМАЮ ДУШОЙ БЕЛЫ СВЕТ..."

### ГРУГАН

**Душа пабялела ад болю**
**І стала такой,**
**як туман...**
**Мне сніцца айчынная поле,**
**А ў полі — адзіны груган.**

**Нутром прадчуваючы згубу,**
**Па звычцы старой,**
**аб валун**
**Ён точыць замшэлую дзюбу,**
**Нямоглы,**
**сівы,**
**нібы лунь.**

**Ён точыць,**
**а сам надта хоча,**
**Каб я павярнуўся і знік.**
**Гляджу у прарочыя вочы,**
**Ды з горла**
**не вырвецца крык,**

**Бо зрэнкі,**
**што прагнулі ўдачы,**
**Даўно не палаюць агнём...**
**Мы з ім,**
**як сіроты,**
**заплачам,**
**Усіх і сябе памянём.**

### ПРЫМУС

**З выслоўем пра гасціннасць, ласку**
**Знаёмы горад і сяло:**
**"Пілі і елі па завязку,**
**Але прымусу не было".**

**"На волю!" — кажуць беларусу,**
**А ён не можа без прымусу.**

### ДЗІКІ

**Дзічэюць агароды,**
**дрэвы,**
**хаты**
**Без чалавечай ласкі і рукі.**
**У зоне,**
**дзе жыццё бядой распята,**
**Даўно ўладараць чорныя дзікі.**

**Паціху валюхаюся дарогай,**
**Якую сціснуў з двух бакоў хмызняк.**
**Паўсюль маўкліва,**
**пуста,**
**а трывога**
**У сэрцы не суцішыцца ніяк.**

**І скаланешся,**
**нібы ад удару,**
**Праясніцца ў вачах**
**імжы слюда:**

**З туману выплывае**
**чорнай хмарай**
**Лычасты гурт,**
**як некалі — арда.**

**Адным імкненнем**
**статак пайднаны —**
**Наесціся,**
**спажыву адшукаць.**
**Яго да мэты**
**гушчаром нязнаным**
**Вядзе без сцежак,**
**напралом**
**сякач.**

**Трымціць нутро**
**ад вусцішы нязвыклай,**
**Ніякавата мне ва ўпор глядзець**
**На гэтыя адточаныя іклы,**
**На гэты хіб,**
**што грозна ўздыбіў шчэць.**

**Спыніўся і стаіўся,**
**бо не зверне**
**Сякач ніколі,**
**а тады — бяда.**
**З такою сілай,**
**прагнай,**
**ненажэрнай,**
**Якая сіла можа саўладаць?**

**Душа,**
**як вязень,**
**курчыцца ў палоне,**
**За кратамі жуды**
**і адкрыцця —**
**Усё,**
**што творыцца цяпер у зоне,**
**Нібы люстэрка**
**нашага жыцця.**

## "РОК ЧЫСТАГА НЕБА-96"



**На праспекце Машэрава ў Мінску адбыўся музычны фестываль "Рок чыстага неба-96". Арганізавалі яго — радыё "Бі Эй" і гарвыканкам. У ім прынялі ўдзел вядомыя расійскія рок-групы "Арыя" і "Містэр Твістэр", а таксама беларускія групы "Крама", "Рублёвая зона", "Буржуазія"** і іншыя.



*На здымках: Выступае група "Буржуазія"; у час фестывалю "Рок чыстага неба-96".*

*Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛТА*

## СТОС "ЗАЛАТЫХ АФІШАЎ"

**Брэсцкі тэатр драмы і музыкі ўрачыста адзначыў закрыццё 51-га тэатральнага сезона, на якім былі падведзены вынікі творчага года і вызначаны самыя цікавыя ролі і іх выканаўцы. Апошнія зрабіліся ўладальнікамі прыза "Залатая афіша". Прызы атрымалі Тамара Ляўчук за адметнае выкананне галоўнай ролі ў спектаклі "Месяц у вёсцы" і Сяргей Пяткевіч за стварэнне вобразаў князя Вітаўта ("Купала") і Фігара ("Жаніцьба Фігара"). Лепшымі выканаўцамі негалоўных роляў прызнаны Міхаіл Перапечка і Таццяна Юрык у спектаклях "Месяц у вёсцы" і "Іванаў".**

**Па выніках апытання гледачоў вызначаны самыя папулярныя акцёры года. Прызы глядацкіх сімпатый заваявалі Людміла Рабая і Міхаіл Мятліцкі.**

**Адна з самых юных актрыс тэатра Людміла Рабая, якая яшчэ працягвае завочную вучобу ў Беларускай акадэміі мастацтваў, пранікнёна сыграла ў спектаклях "Купала", "Прарочыя сны" і іншых.**

**Міхаіл Мятліцкі — сталы майстар сцэны, мае шырокі творчы дыяпазон. У мінулым тэатральным сезоне ён працаваў асабліва плённа, быў заняты амаль ва ўсіх спектаклях, якія ставіліся ў тэатры.**

**З. Д.**

## ЖЫВЕ Ў ГОМЕЛІ "ТАЛАКА"...

**Напрыканцы жніўня ў Гомелі адбылася святочная вечарына, прысвечаная 10-годдзю гомельскага маладзёжнага аб'яднання "Талака". На вечарыне сярод запрошаных былі "старыя" талакоўцы, калі можна так назваць людзей, якія былі ў складзе "Талакі" ў 1986—1993 гг., прадстаўнікі БЗВ, мясцовыя скаўты, а таксама знаёмыя і сябры "Талакі" сённяшняй.**

**У фае музычнай школы імя Чайкоўскага была зроблена фотавыстава, якая нагадвала пра дзейнасць "Талакі" сёлета. Гэта найбольш вечарыны, пастаноўкі "батлейкі" ў гомельскіх школах, удзел у народных святах, сяброўскія сустрэчы. Па словах старшыні аб'яднання Сержука Вінаградава, "Талака" зараз палітыкай увогуле не займаецца.**

**Пачаўся вечар "Царом Максіміліянам" — батлеечнай п'есай, якую запісаў на Гомельшчыне Еўдакім Раманаў. Талакоўцы, дарэчы, адшукалі дом у Гомелі, дзе на пачатку стагоддзя жыў гэты выдатны этнограф (павесілі на доме шыльду).**

**Другая частка вечара была віншавальна-памінальнай. Былым "старшынёй" талакі Алесем Яўсеенкам згадвалася гісторыя стварэння "Талакі". Вольга Цярэшчанка апавядала пра даўнія часы, калі яна ўпершыню заспявала па-беларуску. Затым Вольга радавала прысутных песняй, цудоўным голасам. Вельмі файна йграў на дудзе С.Вінаградаў. Дзівіў сваімі песнямі бард Андрэй Мельнікаў.**

**Увогуле, цяперашняя "Талака" вызначаецца элітарнасцю, ды й нават снабізмам, арыентаванасцю на духоўныя каштоўнасці ды ідэалы. Гэта радуе й прыемна здзіўляе...**

**Л.РАМАНАВА**

Фестывалі

## КАРАНІ ДЫ ГАЛІНКІ

Жыццё — гэта выпрабаванне на трываласць і на трывушчасць. Перад стыхіяй. Перад руцінай. Перад з'явішчамі нябеснымі ды падзеямі зямнымі. Перад самім Жыццём. Перад Богам...

Вось — дрэва: істота старэйшая ды мудрэйшая за нас, людзей. Колькі выпрабаванняў выпадае на ягоны век, які можа доўжыцца стагоддзі, а можа спыніцца на самым пачатку. Здолее непрыкметнае каліўца, парушынкаю ўпаўшы на глебу, прарасці, зачапіцца карэньчыкам за жыццё, разгарнуць насустрач сонцу зялёны лісток надзеі — значыць, ёсць сэнс

# ЯШЧЭ АДНО ВЫПРАБАВАННЕ

МАГІЛЁЎ, "МАГУТНЫ БОЖА"

парадавацца нараджэнню новага дрэва і чакаць усё новых выпрабаванняў для яго.

Тры гады таму людзі добрай волі дзівіліся-радаваліся, калі промыслам Божым укаранёнае ў наш грэшны свет каліўца найвысокай духоўнасці дало цудоўны парастак: у Магілёве, мясціне, здаецца, не прылічанай да слынных святыняў хрысціянства, нарадзіўся міжнародны фестываль хрысціянскай музыкі. Адзіны такога кшталту — на ўсю планету, бо не дэкларуе нейкую этнічную, ці рэгіянальную, ці канфесійную вылучанасць, не заклікае да "братання па крыві", не прапаведуе экуменізм. Хрысціяне ўсіх канфесій і тыя, хто не вызначыўся ў веры; лацінаамерыканцы і грузіны, украінцы і цёмнаскурыя афрыканцы, польскія падлеткі, яўрэі-мінчукі, царкоўныя пеўчыя з расійскай глыбінкі, балгары і госці з еўрапейскага Захаду, — яны яднаюцца без усялякіх лозунгаў і дэкларацый. Як роднасныя душы, скіраваныя да спрадвечных агульначалавечых каштоўнасцяў, да гарманічных і простых стасункаў з навакольлем і між людзьмі. Яднаюцца, у музыцы (і музыкай!) апяваючы Усемагутнага Стваральніка Жыцця.

Яны яднаюцца на роўных, застаючыся самімі сабою. І фестываль застаецца самім сабою — адкрытым для ўсяго, чыстага духам, свету, для ўсіх добрых сэрцаў. І... нязменным у сваёй беларускасці. Невыпадкова і назва яго, "Магутны Божа", ужываецца ў еўрапейскіх мовах ужо без перакладу.

Зрэшты, рызыкую паўтарыць тое, пра што я ўжо казала ў колішніх сваіх нататках, якія з'яўляліся ў "ЛіМе" пасля кожнага фестывалю. Сёлетняя, чацвёртая вандроўка на свята ў Магілёў — падстава для іх працягу.

Як вядома, тры гады запар галоўнымі чыннікамі фестывалю былі магілёўскія энтузіясты: педагогі, журналісты, работнікі культуры, святары. Афіцыйныя ўлады, мякка сказаць, з недаверам пазіралі на незвычайны парастак, пайменаваны "Магутны Божа". А колькі знаходзілася "дабрадзеяў", якія не грэбавалі ні дэзінфармацыяй, ні дробным хуліганствам — абы падначыць гаспадароў горада на забарону фестывалю, абы нашкодзіць яго арганізатарам! Са старонак мясцовых газет палохалі пагрозай "массовых беспорядков", парушэннем спакою грамадзян, ідэалагічнай дыверсіяй, нават эпідэміяй страўнікава-кішэчных і венерычных захворванняў! Змагаліся з вулічнай рэкламай: зрывалі, заклейвалі...

Нягледзячы ні на што, фестывальнае дрэўца ўкаранілася ў магілёўскую глебу, і кожнае лета ягоныя галінкі аздабляе свежая лістота.

Вельмі важна, што дзякуючы фестывальнай справе праходзяць і вытрымліваюць выпрабаванні чыннікі, абаронцы, прыхільнікі гэтай справы. Усцешна, што кола такіх людзей пашыраецца. Прыемна пісаць пра тое, што намеснік старшыні Магілёўскага гарвыканкома Уладзімір Цумараў аказаўся прынцыповым, паслядоўным і шчырым — у словах і ўчынках. Летась ён, як зацікаўлены назіральнік, публічна выказаў сваё захапленне пабачаным падчас фестывалю і паабяцаў, што чарговае свята будзе арганізавана пры дзейсным удзеле гарадскіх улад. Год мінуў — і заўсёднікі "Магутнага Божа" заўважылі нямала новага.

Аргкамітэт узначаліў Уладзімір Цумараў, поруч з ім працавалі ўжо сталыя энтузіясты фестывалю начальнік упраўлення культуры гарвыканкома Ніна Падольская, старшыня фонду "Магутны Божа" Стэла Стуканава, начальнік аддзела інфармацыі і рэкламы абласной філармоніі Алена Барысава, музычны рэдактар Жанета Ялфімава, дырэктар Ліцэя музыкі і харэаграфіі Людміла Мішчанка, радыёжурналіст Анатоль Шпількоў, ксёндз-пробашч касцёла св. Станіслава Уладзіслаў Блін. Прэса ўпершыню была забяспечана пакетам інфармацыйных матэрыялаў. Удзельнікі фестывалю атрымалі дадатковыя пляцоўкі для выступленняў: залу педагагічнага факультэта Акадэміі музыкі (нарэшце, за 4 гады — упершыню!), выставачны салон мастакоў, некалькі кропак на вольным паветры. Забяспечыўшы гасцей жыллём і харчаваннем, арганізатары нямала зрабілі і для вырашэння транспартных праблем. Прынамсі, фестывальныя візітоўкі гарантавалі бясплатны праезд на грамадскім транспарце.

Што яшчэ?

А яшчэ гарадскія ўлады, узяўшы на сябе



галоўную адказнасць за далейшае жыццё фестывалю (заручыўшыся ўжо сталай спонсарскай падмогай Фонду Сораса), вырашылі захоўваць і прадаўжаць яго традыцыі.

Не можа штогод адно і тое ж дрэва цвісці аднолькава. І лістота на новых галінках штогод складае непаўторны ўзор: то шчыльны, то больш празрысты, далікатны. Таму не трэба хваляваецца з-за таго, што фестывальнае дрэва, сёлета яшчэ больш упэўнена (афіцыйная падтрымка!) укараніўшыся ў магілёўскую глебу, не ўражвала колішняй пышнасцю. Так, прыезджага люду было каля 500 удзельнікаў, на добрую палову меней, чым у ранейшыя гады. Ці то вялікія транспартныя выдаткі, ці то боязь трапіць на "ўжо не той" фестываль, ці то недапрацоўкі арганізатараў, — цяжка сказаць, што ўрэшце перашкодзіла прыехаць усім тым замежным гасцям, якіх чакаў Магіёў. Але прэстыж **міжнароднага** свята быў захаваны.

Зноў прыехалі нястомныя галандцы пад кіраўніцтвам Альберта Маанэна, якія, апроч жыццярадасных пратэстанцкіх харалаў, выконвалі абавязковы конкурсны твор — песняспеў беларускай царквы. Дзякуючы рэкламе, якую зрабіла сярод землякоў леташняя лаўрэатка спявачка Ларыса Дарэнская, "Магутны Божа" прымаў сёлета вялікую дэлегацыю львавян — хор "Гаудэамус" політэхнікума, музычны тэатр "Дзеці Зямлі", салістак. Расійскую Федэрацыю прадстаўляў мужчынскі муніцыпальны мікрахор "Кафедра" з Казані ды дзіцячы хор з Цверы. Духоўныя песні пад гітару спяваў Пол Адамс з Каліфорніі; па-грузінску і па-руску славілі Бога ўдзельнікі трыо "Рэнесанс" — бежанцы з Абхазіі, якіх прытуліў Магілёў; упершыню пад скляпеннямі касцёла гучаў армянскі рэлігійны песняспеў, прадстаўлены ў конкурснай праграме львавянкі Гаянэ Хасцян.

А ў журы, якое па-ранейшаму ўзначаліў наш маэстра прафесар Віктар Роўда, поруч з вядомымі беларускімі музыкантамі Любоўю Каспорскай, Ганнай Каржанеўскай ды Віктарам Скорабагатавым працавалі "француз, які жыве ў Лондане і размаўляе па-беларуску", — Гай дэ Пікарда і маскоўскі прафесар, акадэмік Аляксандр Тэвасян.

## СОНЦА ЎЗЫХОДЗІЦЬ АД МАЛІТВЫ

За фестывальны тыдзень так і не давялося пакарыстацца парасонам (хаця сёлетні ліпень вадзіцы нябеснай не шкадаваў). Не дождж, а невытлумачальную лагоду пасылала неба на

## З КАПЫЛЬШЧЫНЫ РОДАМ

Льву ШАКУНУ — 70

**Багатая капыльская зямля на таленты. У шэрагу яе слаўных сыноў і знакаміты беларускі мовазнаўца, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Л.Шакун. Нарадзіўся Леў Міхайлавіч 14 верасня 1926 года ў вёсцы Браткава. У 1950 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. У 1953-ім абараніў кандыдацкую дысертацыю, праз дванаццаць гадоў — доктарскую... Асноўныя навуковыя памкненні Л.Шакуна — даследаванне гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Ім напісаны шэраг манаграфічных прац, сярод якіх “Нарысы па гісторыі беларускай літаратурнай мовы” (1960) і “Гісторыя беларускай літаратурнай мовы” (1963). Апошняя значная тым, што Л.Шакуну ўдалося ўпершыню ў нацыянальным мовазнаўстве прааналізаваць працэс развіцця беларускай літаратурнай мовы ад часоў яе ўзнікнення да нашых дзён. Гэтая праца была дапушчана тагачасным Міністэрствам вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі ў якасці вучэбнага дапаможніка для студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ. У 1984 годзе з’явілася другое выданне яе, значна дапоўненае і ўдакладненае, а ў 1986 годзе за гэты дапаможнік Леў Міхайлавіч і быў удастоены звання лаўрэата Дзяржаўнай прэміі. Як бы працяг згаданага даследавання — “Практыкум па гісторыі беларускай літаратурнай мовы”, напісаны сумесна з В.Краснеем — што таксама вытрымаў два выданні (1976 і 1986). Разам з А.Бардовічам Л.Шакун склаў “Марфемны слоўнік беларускай мовы”, што ахоплівае 75 тысяч лексем.**

**Віншуем Льва Міхайлавіча з 70-годдзем! Жадаем яму і надалей працаваць плённа і мэтанакіравана!**

## ЁСЦЬ ВУЛІЦА ІМЯ ВІКТАРА ГАРДЗЕЯ

**І з”явілася яна нядаўна ў яго роднай вёсцы Малыя Круговічы Ганцавіцкага раёна. Землякі знакамітага паэта і празаіка, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа пахадайнічалі аб гэтым перад уладамі (а, як вядома, пры жыцці літаратараў апошнім часам не прынята прымаць падобныя рашэнні) невыпадкова. В.Гардзей, як рэдка хто з сучасных пісьменнікаў, у сваіх творах расказвае пра людзей, блізкіх і дарагіх яму з маленства. Ён прысвяціў ім нямала шчырых, прачулых радкоў, але асабліва часта пазнаюць сябе жыхары Малых Круговічаў у шматлікіх празаічных творах земляка, найперш у нядаўна напісаных — рамане “Бедна басота” і аповесці “Ці то грэбля, ці то гаць”. Прозвішчы, скажам, тых, хто пайшоў з жыцця, аўтарам захаваны, самі ж Малыя Круговічы праходзяць у творах як Малое Сяло.**

**Аб наданні вуліцы імя В.Гардзея было ўрачыста аб’яўлена на нядаўнім свяце Малых Круговічаў, якое супала з завяршэннем жніва ў мясцовым калгасе “Сцяг Леніна” і было прымеркавана да 50-годдзя знакамітага земляка. Пераможцам уборкі ўручаліся каштоўныя падарункі, праводзіліся розныя спаборніцтвы, гучалі песні. І, канечне ж, вершы В.Гардзея. Маленькія ўдзельнікі свята змаглі пабываць на яго... “лясной палянцы”. Такую назву яна таксама атрымала невыпадкова. Ёсць у В.Гардзея і некалькі кніг для дзяцей, адна з іх называецца “На арэхавай палянцы”. На “лясной палянцы” выступалі юныя артысты-лялечнікі, якія падрыхтавалі спектакль па творах земляка.**

**Слова пра творчасць В.Гардзея на свяце гаварылі паэт М.Антаноўскі, крытык А.Марціновіч, журналіст К.Мохар і іншыя.**

## РЭДАКТАР-ВЫДАВЕЦ МАКСІМ ГАРЭЦКІ

**75 гадоў назад, 14 верасня 1921 года ў Вільні выйшаў першы нумар штотыднёвай грамадска-палітычнай і літаратурнай газеты “Беларускія ведамасці”, рэдактарам і выдаўцом якой з’яўляўся класік беларускай літаратуры Максім Гарэцкі. На жаль, пабачыла свет усяго 19 нумароў гэтага выдання. Апошні датаваны 15 студзеня 1922 года. М.Гарэцкі быў арыштаваны ўладамі, пасаджаны ў сумнавядомую Лукішскую турму, а затым дэпартаваны з Вільні. Нядоўгім было жыццё “Беларускіх ведамасцяў”, ды яны пакінулі пасля сябе добры след. Найперш цікавымі матэрыяламі па нацыянальнай гісторыі, напісанымі У.Ігнатоўскім, А.Смолічам і іншымі. Вялікая ўвага на старонках газеты надавалася пытанням нацыянальнай асветы, пераходу школы на родную мову навучання. Змяшчаліся і этнаграфічныя матэрыялы пра Беларусь, фальклорныя творы, публікаваліся раздзелы з “Хрэстаматыі беларускае літаратуры. XI век — 1905 г.”, матэрыялы з “Беларускага лемантара”, знаходзілася месца творам самога М.Гарэцкага, вершам і апавяданням Г.Леўчыка, Л.Родзевіча, Н.Арсенневай і іншых.**

Віншуем!

# ДАСЛЕДЧЫК МОВЫ

## Арнольду МІХНЕВІЧУ — 60

Споўнілася 60 гадоў вядомаму беларускаму вучонаму і педагогу Арнольду Яфімавічу Міхневічу, аўтару каля 400 навуковых прац па актуальных пытаннях беларускага і славянскага мовазнаўства. Тэматыка яго даследаванняў надзвычай багатая і разнастайная. Яму належаць шматлікія публікацыі па сучаснай беларускай мове і гісторыі беларускай і рускай моў, па сінтаксісе, лексікалогіі і этымалогіі, беларуска-рускіх моўных узаемаадносінах, параўнальным аналізе гэтых блізкароднасных моў і іх функцыянаванні на тэрыторыі Беларусі і яе памежжы з іншымі дзяржаўнымі ўтварэннямі. Шмат прац апублікавана ім па супастаўляльным вывучэнні беларускай і іншых славянскіх моў, культуры пісьмовай мовы і вуснага маўлення. Ён добра вядомы і як навуковец-метадыст, стваральнік шматлікіх вучэбных дапаможнікаў, практычных курсаў па беларускай мове для вышэйшых навучальных устаноў, беларуска- і рускамоўных школ навучання. Вялікі ўклад унесены ім у сацыялінгвістыку, тыпалагічнае мовазнаўства, супастаўляльную і перакладную лексікаграфію. Усё гэта сведчыць аб шырыні яго кругагляду і ўсёабдымнасці рэалізаваных ім на багатым моўным матэрыяле творчых задум. А.Міхневічу належаць такія каштоўныя працы, як “Сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні ў беларускай мове: Трансфармацыйны аналіз” (1965), “Праблемы семантыка-сінтаксічнага даследавання беларускай мовы” (1976), “З гісторыі прамоўніцкага мастацтва” (1972), “Хрэстаматыя па лектарскім майстэрстве” (1978), “Уводзіны ў методыку лекцыйнай прапаганды: Дапаможнік маладога лектара” (1982), “Аратарскае майстэрства лектара” (1984), “Методыка лекцыйнай прапаганды” (1986), “Кароткі арфаэпічны слоўнік” (1984), “Руска-беларускі размоўнік” (1991). Ён жа з’яўляецца сааўтарам “Этымалагічнага слоўніка беларускай мовы” (1980), вучэбнага дапаможніка “Беларуская мова для небеларусаў”, які вытрымаў ужо тры выданні. Арнольд Яфімавіч удзельнічаў у складанні “Слоўніка славянскай лінгвістычнай тэрміналогіі”, тт. 1—2 (1977, 1979), “Англа-беларускага размоўніка” (1992), “Слоўніка мовы Якуба Коласа”(рукапіс), “Адваротнага слоўніка беларускай мовы” (рукапіс). Шмат карыснага зрабіў ён і як рэдактар серыі кніг “Скарбы мовы”, “Беларуская мова: гісторыя і сучаснасць” і шэрагу асобных выданняў, якімі з’яўляюцца “Беларуская мова: Энцыклапедыя” (1994), “Культура рускай мовы ў пытаннях і адказах” (1986) і інш. Шмат увагі ўдзяляў і працягвае аказваць надзённым пытанням моўнай практыкі, апублікаваў шэраг брашур і навукова-метадычных артыкулаў, хранікальных заметак і рэцэнзій на розныя мовазнаўчыя працы.



Арнольд Яфімавіч як творчая асоба ніколі не замыкаўся ў сценах свайго кабінета, не быў кабінетным вучоным, які дбае толькі аб сваіх навуковых інтарэсах і даследаваннях. Поруч з няспыннай навуковай працай яго жыццё было напоўнена актыўнай навукова-арганізацыйнай і педагагічнай дзейнасцю, шматлікімі і разнастайнымі грамадскімі абавязкамі і даручэннямі.Ён адзін з найбольш актыўных лектараў рэспубліканскага таварыства “Веды”, займаецца педагагічнай працай у розных ВНУ рэспублікі, кіруе доктарскімі і кандыдацкімі даследаваннямі вышукальнікаў, дыпломнымі і курсавымі працамі студэнтаў. Гэтак жа дастойна прадстаўляе беларускае мовазнаўства за мяжой, куды яго штогод запрашаюць для чытання лекцый і ўдзелу ў шматлікіх міжнародных навуковых канферэнцыях, сімпозіумах, семінарах, “круглых сталах”, з’яўляецца членам Міжнароднай камісіі па вывучэнні граматычнага ладу славянскіх моў пры Міжнародным камітэце славістаў, членам Міжнароднай асацыяцыі выкладчыкаў рускай мовы і літаратуры.Сведчаннем высокага аўтарытэту А.Міхневіча стала яго абранне віцэ-прэзідэнтам Беларуска-нямецкай асацыяцыі культурна-асветных ініцыятыў і акадэмікам Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі. Каля сотні яго навуковых прац было апублікавана за межамі Беларусі, у тым ліку звыш двух дзесяткаў прац у краінах далёкага замежжа. Працы А.Міхневіча друкаваліся на балгарскай, македонскай, малдаўскай, нямецкай, польскай, сербахарвацкай, славацкай, чэшскай і іншых мовах.

Багаты спіс і службовых пасад юбіляра. Пасля заканчэння аспірантуры пры Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук БССР і абароны кандыдацкай дысертацыі(1963) залічаецца на працу малодшага навуковага супрацоўніка сектара агульнага і славянскага мовазнаўства, а затым пасля некалькіх гадоў плённай працы пераводзіцца ў сектар сучаснай беларускай мовы і культуры мовы ўжо на пасаду старшага навуковага супрацоўніка гэтага ж інстытута. Пазней, пасля абароны доктарскай дысертацыі (1976) прызначаецца загадчыкам навастворанага сектара рускай мовы (1978), за час работы ў якім папоўніў айчынную русістыку амаль трыма дзесяткамі друкаваных прац. З 1983 года працуе ў Беларускім паліталагічным інстытуце на пасадзе загадчыка кафедры мовы, літаратуры і журналістыкі, у якім таксама праявіў сябе як вопытны навукоўца, педагог, кіраўнік. Вялікі тэарэтыка-даследчыцкі і метадычна-выкладчыцкі патэнцыял, значны навукова-арганізацыйны вопыт і прыроджаны дар педагога абумовілі запрашэнне А.Міхневіча ў 1991 годзе на працу ў якасці прарэктара па навуковай рабоце Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта, дзе ён адначасова ўзначаліў і кафедру тэарэтычнага мовазнаўства. З верасня 1995 года ён ужо першы прарэктар у Беларускім інстытуце праблем культуры, новай навукова-даследчай установе Міністэрства культуры РБ.

І сёння, як і заўсёды раней, Арнольд Яфімавіч поўны творчых сіл, новых планаў і задум, з аптымізмам працуе над рэалізацыяй чарговых навукова-даследчых і арганізацыйных праблем.

У сувязі з 60-годдзем шчыра віншуем Арнольда Яфімавіча з гэтай юбілейнай датай і выказваем самыя добрыя пажаданні ў працы на ніве роднай культуры, мовы. Добрага здароўя, настрою, даброт і шчасця ў асабістым жыцці! Да новых здзяйсненняў, набыткаў, перамог!

**Аркадзь НАРКЕВІЧ,**
**прафесар Белдзяржуніверсітэта,**
**доктар філалагічных навук**

# “СЁННЯ СУМЛЕННЫ ЧАЛАВЕК МОЖА ТОЛЬКІ РАЗВЕСЦІ РУКАМІ...”

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

ў “разбурэнні сувязей паміж брацкімі рэспублікамі”, а ў тым, што ў 1917 годзе адбылася жахлівая рэвалюцыя і Расея, разам з нацыянальнымі ўскрайкамі, улучна з Беларуссю, пайшла не ў тым кірунку. Мы пайшлі абсалютна ў тупіковую галіну і ўперліся ўрэшце ў тупік. І цяпер як вярнуцца назад? Гістарычны час гэта выключае. Як зноў збочыць у агульнае русла зямной цывілізацыі — не ведае ніхто... Вот таму гэта ўсё мы і перажываем. І павінны перажыць. У гэтым сэнсе самае жахлівае — разбурэнне найбольш агульнага, боскага прынцыпу прыватнай уласнасці. З яго ўсё пачынаецца. Калі прыватную уласнасць panішчылі, панішчылася ўсё... Бо чалавек ад жывёлы адрозніваецца тым, што здольны нечым валодаць і распараджацца. Нават леў, сабака “мецяць” сваю тэрыторыю, свае ўладанні... Прырода толькі тады дасць нейкі плён, калі яна будзе камусьці належаць. А ў нас праца людзей і ўласнасць не толькі абяздушаны, але і незаконным чынам прысвоены, можна сказаць, антылюдзьмі, нечалавекамі. Пры сацыялізме ўласнасцю народа распараджалася Палітбюро, купка людзей. З гэтага пачаліся ўсе няшчасці... І пагэтаму, каб вярнуцца ў ранейшае становішча, уласнасць трэба раздаць канкрэтным людзям. Толькі як гэта зрабіць па справядлівасці? Ёсць жа ў матэматыцы задачы, якія не маюць рашэння. Баюся, што такая ж праблема зараз у нас з уласнасцю: яна не мае свайго справядлівага вырашэння — вот у чым нявыкрутка...

**— Для гэтага павінны распрацоўвацца рэформы...**

— Рэформы павінны быць... Каму будзе належаць уласнасць — заходнім банкам ці расейскім канцэрнам — у гэтым БНФ і Лукашэнка разыходзяцца. БНФ лічыць, што лепш, калі гэта будзе належыць цывілізаваным заходнім банкам, чым ненажэрным усходнім канцэрнам. Але, па сутнасці, і тое і другое кепска. Лепш, калі яно будзе належыць нам. Але лічыцца, што апошняе — “нацыяналізм”... Нацыяналізм канечне, пастараліся скампраметаваць, найперш нарабіў жаху нямецкі нацызм... Але правільна гаворыць Ф. Хукаяма, гэты апошні “адвакат нацыяналізму”, як яго называюць на Захадзе: само паняцце нацыяналізму заключае ў сабе вельмі шмат, ад самага высакароднага ад самага ганебнага. І трэба канкрэтна меркаваць пра кожны канкрэтны нацыяналізм. Хукаяма кажа пра нацыяналізм рэспублік былога СССР як абавязковую перадумову крушэння таталітарызму. Г. зн. што толькі нацыяналізм можа эфектыўна змагацца з расейскім камуністычным рэжымам. Далей ён піша, што нацыяналізм і заходні лібералізм могуць выдатна ўжывацца, дапаўняючы і ажыўляючы адзін аднаго. А ў нашай масавай свядомасці нацыяналізм — гэта страшна, ім палохаюць. Прычым не толькі камуністы, але і некаторыя дэмакраты, ім мроіцца Югаславія, Каўказ, Сярэдняя Азія, і яны гэта адпрэчваюць. У тым ліку і расейскія дэмакраты. Вот чаму не могуць зразумець украінцаў...

**— А Украіна тым часам будуе сваю дзяржаўнасць і нават Амерыка ёй у тым дапамагае...**

— Вот іменна. І Беларусь жа магла б здабыць такую падтрымку, тым больш што стратэгічна Беларусь, можа быць, важней за Украіну, і насельніцтва ў нас меней, таму падтрымаць нас было б лягчэй... Аднак Беларусь робіць такі вось выбар — рукамі яе палітычнага кіраўніцтва. Шчаслівейшыя прыбалты, яны выйшлі з-пад ног Расеі, засталіся збоку, пры моры. А мы — на парозе Расеі, і пагэтаму шчасця нам тут не будзе, як не стала яго калісь Вялікаму княству Літоўскаму: усё па той жа прычыне — што апынулася “паміж”... “Літва” і адціснулася ўбок, да Балтыйскага мора, і там захавалася. А ў нас тут шчасця не будзе.

*Чэрвень 1995 г.*

## МЕЎ ШМАТГРАННЫ ТАЛЕНТ

**Віталь Вольскі, з дня нараджэння якога споўнілася 95 гадоў (памёр 22 жніўня 1988 года), літаратурную дзейнасць пачаў у 1926 годзе. Першай кнігай стала праца "Праблемы беларускай савецкай драматургіі" (1934). Аўтар манаграфіі "Эдуард Самуйлёнак. Жыццё і творчасць" (1951), "Нарысаў па гісторыі беларускай літаратуры эпохі феадалізму" (1958), адзін з аўтараў дапаможніка для студэнтаў ВНУ "Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры" (1956), падручніка "Беларуская савецкая літаратура" для 9—10 класаў.**

**Ярка праявіўся талент Віталя Фрыдрыхавіча ў галіне драматургіі: п'есы "Цудоўная дудка", "Дзед і Жораў", "Несцерка", "Машэка". А.Вольскі напісаў сцэнарыі дакументальна-краязнаўчых фільмаў "Белавежская пушча" (1946) і "Бярэзінскі запаведнік" (1965).**

**Найперш дзецям адрасаваны яго кнігі краязнаўчых нарысаў і апавяданняў "Па лясных сцежках" (1948), "У лясах над Бярозай" (1955), "Месяц за месяцам" (1956), "На бабровых азёрах" (1957), "Чайкі над Нараччу" (1959), "Родны край" (1961), "Афрыканскае падарожжа" (1963), "Лёс Дункана" (1978) і іншыя. Пераклаў на беларускую мову сатырычную паэму І.-В.Гётэ "Рейнеке-Ліс", раманы В.Брэдэля "Выпрабаванне", М.Кульбака "Зэльманцы".**

## РАССТРАЛЯНЫ Ў 1937-М

**Юлія Таўбіна расстралялі 30 кастрычніка 1937 года, калі яму было ўсяго дваццаць шэсць гадоў. Гэты таленавіты паэт нарадзіўся 15 верасня 1911 года ў горадзе Астрагожску Варонежскай вобласці (Расія). У 1921 годзе з бацькамі пераехаў у Мсціслаўль, скончыў педагагічны тэхнікум, вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, але 25 лютага 1933 года быў арыштаваны і прыгавораны да двух гадоў высылкі ў Цюмень. 6 снежня 1936 года Ю.Таўбіна арыштавалі другі раз і прыгаварылі да расстрэлу. 29 кастрычніка 1937 года.**

**Друкавацца пачаў у 1926 годзе ў часопісе "Маладняк Калініншчыны" і газеце "Чырвоная змена". Выйшлі кнігі "Агні" (1930), "Каб жыць, спяваць і не старэць..." (1931), "Тры паэмы" (1931), "Мая другая кніга" (1932), паэма "Таўрыда" (1932). У 1957 годзе пабачылі свет "Выбраныя творы" Ю. Таўбіна, у 1969 годзе — зборнік "Вершы". На беларускую мову пераклаў асобныя творы Г. Гейнэ, У. Маякоўскага, некаторых англамоўных паэтаў.**

## ШЧОДРАЕ СВЯТЛО "ПРАМЕНЯ"

**Як мы паведамлялі раней, у Латвійскай Рэспубліцы выходзіць газета Таварыства беларускай мовы "Прамень", што мае аднайменную назву. Заснаваная ў снежні 1994 года, яна стала штомесячным ілюстраваным выданнем беларусаў Латвіі**

**і карыстаецца сярод іх папулярнасцю, пра што сведчыць досыць прыстойны тыраж: 3 тысячы асобнікаў. Аб тым, чым жыве "Прамень", відаць і з сёмага за сёлетні год (дзевятнаццатага з часу выхаду) нумара.**

**Адкрываецца нумар разнастайнай інфармацыяй, змешчанай пад рубрыкай "Весткі з Бацькаўшчыны". Падаецца тэкст выступлення Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.Шарэцкага на першай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання 4 чэрвеня 1996 года. Публікуюцца адказы на пытанні, звязаныя з парадкам уезду ў Беларусь грамадзян і сталых жыхароў Латвіі. Пра М. К. Агінскага ў нарысе "Паланез Спадзявання" расказвае П.Краўчанка. Л.Дучыц выступае з артыкулам "Варагі ў Беларусі". Каторы год С. Панізнік перапісваецца з Л.Краскоўскай, якая жыве ў Браціславе. Гэтым разам яна прыслала свае ўспаміны "Аб Беларускай гімназіі ў Вільні" і "Беларуская дзяржаўная гімназія ў Дзвінску", якія С.Панізнік прапанаваў увазе чытачоў "Праменя". Друкуюцца вершы С.Валодзькі, С.Панізніка, матэрыялы да 114-й гадавіны з дня нараджэння Я.Купалы і да 80-годдзя яго вянчання з У.Станкевіч, у "Беларускім народным календары" — нарыс "Ліпень". Ёсць і асобныя рэцэпты нацыянальнай кухні.**

# "МУШУ ЗАСВЕДЧЫЦЬ ПРАЖЫТАЕ..."

## 450 ГАДОУ НАЗАД НАРАДЗІУСЯ ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕМУАРЫСТ ФЁДАР ЕУЛАШОУСКІ

ІШОЎ 1603 год... Падсудак Навагрadскага павятовага земскага суда Еўлашоўскі з паўгода назад сабраўся парадкаваць свае паперы. Запісваць найбольш цікавыя ўражанні, выпадкі, здарэнні, падзеі ён пачаў яшчэ ў маладосці. Занатовак за не адзін дзесятак гадоў назбіралася шмат, але ўсе яны мелі разрознены, не сістэматызаваны характар. Многія запісы рабіліся наспех і цяпер іх было цяжка разабраць. А час прыспешваў. Фёдару Міхайлавічу споўнілася пяцьдзесят сем гадоў. І хто яго ведае, як шмат Богам адведзена яшчэ пражыць? Можа, надарыцца і так, што звычайны дзень стане ў тваім лёсе апошнім. Колькі ж гэтак сяброў-таварышаў пахаваў ён! Глядзіш, чалавек здаровы, не кволіцца, ні на што не скардзіцца і раптам — няма яго. Як быў, так і згінуў. Хаця, калі разабрацца, нічога ў тым дзіўнага. Усе мы пад Богам ходзім. І не столькі ад нас саміх, як ад яго, Усявышняга, залежыць, колькі жыць. Не гнявіў ты яго, сумленна ставіўся да ўсіх, пра веру не забываўся, дык у цяжкую мінуту ён і табе дапамогу акажа. Нават тады ўратуе, калі, здавалася б, апошняя надзея на шчаслівы зыход даўно страчана. Ці надарыцца недарэчны выпадак, сама кашчавая касу над табой занясе, але ў апошні момант як бы нехта нябачны, невядомы штурхне смерць у руку і чалавек па сутнасці з таго свету выкарабкаецца.

Шмат і такога памятае Ф. Еўлашоўскі. Каб сам сведкам таму не быў, ні за што не паверыў бы. Узяць хоць бы здарэнне, якое адбылося ў Ляхавічах у... Глядзі ты, ужо і год забыўся. Калі ж яно надарылася? Ёсць, здаецца, пра гэта запіс, надоечы ў рукі трапляўся. Загубіўся... Нібыта хто спецыяльна адсунуў яго ўбок. Думай, пане Еўлашоўскі, памяць напружвай! Няўжо не ўспомніш?!

На памяць ён яшчэ не скардзіўся. Не давялося горы занатовак пераварочваць. У 1576 годзе тое было. Вясна ранняя, такая, якой самыя старыя людзі не памяталі. А перад тым зіма надзіва снежная стаяла. Снег пад гарачымі промнямі сонца, быццам тлушч на патэльні, раставаў хутка, на вачах распаўзаўся, ператвараўся ў вірлівыя патокі вады, што пабеглі з пагоркаў у нізіны. Не вытрымаў лёд на рацэ. За якія суткі ўздыбіўся, паламаўся на магутныя крыгі. Выйшла рака з берагоў і шугавінне ўперамешку з крыгамі панеслася па цячэнні. А з год назад у Ляхавічах пабудавалі новы млын. Непадалёку ад моста. Млынар Януш, як толькі нечакана прыгрэла сонца, занепакоіўся. Здагадваўся, да чаго можа гэта прывесці. І ў сваіх трывожных прадчуваннях не памыліўся. Прачнуўся неяк ранкам, выйшаў на ганак... Людцы добрыя, што ж гэта робіцца! Крыга на крыгу насядае і ўсе ці не каля самага млына затрымліваюцца, нагрувашчваюцца, затор утварыўся. Януш багор у рукі, пачаў лёд аббіваць. Паспеў жонцы крыкнуць: "Любка ты мая... Уставай, ды людзей на падмогу кліч!" А ёй два разы паўтараць не трэба. Пачулі гараджане, у якую бяду млынар трапіў. Людна стала на беразе. Хто, як і сам Януш, лёд ля млына збівае. Некаторыя на масце сабраліся. Дужэйшыя ўхапілі бярвенцы, апускаюць іх уніз, крышаць лёд, каб не затрымліваўся. Януш, убачыўшы, што праца спорна пайшла, падбег бліжэй да моста. Стаў на крайнюю яго бэльку. Нагледзеў самую вялізную крыгу і пешняй па ёй.

Разам з усімі завіхаліся і слугі Януша. Мацакі-здаравякі! Ухапілі досыць тоўстае бервяно, падышлі да парэнчаў і апусцілі на крыгу. Зноў паднялі...

Хтосьці занепакоіўся, каб няшчасця не здарылася, каб Януша не зачапілі — мала што можа быць. Але той, пачуўшы пра гэта, толькі рукой махнуў: чаго, маўляў, хваляваццa, слугі — здаровыя, бервяно ўтрымаюць...

Але нездарма гавораць: не кажы гоп, пакуль не пераскочыў. Ці то стаміліся слугі, ці па нейкай іншай прычыне, але — упусцілі бервяно. І ўдарыла яно ніжнім канцом Януша ў патыліцу. Як стаяў на бэльцы, так каменем і пайшоў у ваду.

Забегалі ўсе, замітусіліся, не ведаючы, што рабіць. Чалавека, канешне, ратаваць трэба, а як? Сёй-той паспеў і перахрысціцца, развітацца з млынаром. Аднак — што гэта? Сярод крыг паказалася галава Януша. І жывы ён быў. З берага відаць было, як чырвонымі плямамі пакрываецца вакол вада, млынар, круцячы галавой налева-направа, спрабуе адагнаць ад сябе крыгі, паволі плыве да берага.

Зноў замітусіліся людзі. Хто багор падае, хто гатовы ў раку кінуцца. А Януш — дзіва і толькі — паспеў яшчэ крыкнуць. Хоць і з цяжкасцю, але можна было разабраць:

— Не трэба, я сам...

Пасля гэтага і паверыў, што Бог гатовы ў цяжкі момант на дапамогу чалавеку прыйсці. Ўратаваўся ж Януш, хоць нагой, як кажуць, у магіле стаяў...

Сапраўды, ніхто дакладна не знае, колькі лёсам яму адпушчана пражыць. Як не ведае і таго, ці доўга Бог будзе апекавацца ім.

І ўсё ж, пяцьдзесят сем — нямала. Самы час падрахункаваннем заняцца. Таму і вырашыў Еўлашоўскі ўпарадкаваць свае запісы. А паколькі яны не былі сістэматызаванымі, а многае з перажытага захоўвалася толькі ў памяці, дык давялося, перш чым запісваць, прыпамінаць. Пакрысе ўзнаўляўся эпізод за эпізодам. Асноўную ўвагу Фёдар Міхайлавіч удзяляў, зразумела, асабістаму жыццю. Аднак расказваў і пра блізкіх людзей, знаёмых, з кім сутыкаўся ў розны час. А паколькі і сам ён, і людзі, якія акружалі яго, знаходзіліся, як кажуць, зусім не ў ізаляванай прасторы, дык тым самым адлюстроўваліся і шмат якія палітычныя і грамадскія падзеі.

Як і многія ў падобных выпадках, Ф. Еўлашоўскі па сутнасці вёў дзённік. Праўда, у дзённіку запісы звычайна робяцца дзень за днём, у іх паслядоўнасці. У дадзеным жа выпадку ўзнаўляліся і згадкі мінулыя. Аднак Фёдар Міхайлавіч ад храналагічнага прынцыпу падачы матэрыялу не адмовіўся.

Запісаў ён і асобныя падзеі, што адбыліся пазней, пасля 1603 года. Апошні запіс паставіў 2 студзеня 1604-га. Паведаміў, што памёр яго сусед і прыяцель Беньямін Чаркоўскі. Фёдар Міхайлавіч смуткаваў з выпадку гэтай страты. Але і спадзяваўся на лепшае. Спадзяваўся і памятаў, што ёсць на небе Бог, што без веры ў яго лёгка страціць арыенціры і духоўнае апірышча. З падзякай Богу і завяршаў свае запісы: "Дзякую я тобе, Боже мой, ойче пана нашого Езуса Христуса, же межи иншими дары твоими далэсь ми на то был, жем се од заздрости устрець мокгл так, же нигды сэрцэм моим не панoвала и непотребного, яком знал по иншых, жалю, хоробе якейсь падобного не чинила".

Успаміны Ф. Еўлашоўскага ўпершыню былі надрукаваны толькі ў 1860 годзе, прытым не ў арыгінале, а ў перакладзе на польскую мову. Перадрук жа з рукапіснай копіі мемуараў зрабіў у 1886 годзе гісторык У. Антановіч. Дзякуючы яму праз дзесяць гадоў з'явілася яшчэ адна падобная публікацыя. На Беларусь жа мемуары вярнуліся параўнальна нядаўна, у 1959 годзе, калі з'явіліся ў "Хрэстаматыі па старажытнай беларускай літаратуры".

Безумоўна, навукоўцы цікавіліся, дзе знаходзіцца сам арыгінал, хацелі пазнаёміцца з ім. Гэтым пытаннем заняўся Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа АНБ. Супрацоўнікі яго звярнуліся па дапамогу да польскіх даследчыкаў. Поспех спрыяў Я. Сяткоўскаму. Рукапіс Ф. Еўлашоўскага ён знайшоў у Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве. З арыгінала была зроблена фотакопія і даслана ў Мінск. А на падставе яе тэкст мемуараў для кнігі "Помнікі мемуарнай літаратуры Беларусі XVIII ст.", выпушчанай выдавецтвам "Навука і тэхніка" ў 1983 годзе, падрыхтаваў літаратуразнавец А. Коршунаў.

Так у сваім першапачатковым выглядзе прыйшоў да чытача самы ранні помнік беларускай мемуарнай літаратуры. Адсюль зразумелая павышаная ўвага і да самога твора, і да асобы яго аўтара. Слушна наконт гэтага сказаў А. Коршунаў: "Успаміны Ф. Еўлашоўскага маюць для нас асаблівую цікавасць як літаратурны помнік, дзе надзвычай ярка і маляўніча пададзены шматлікія эпізоды з жыцця і быту прадстаўнікоў тагачаснай дробнамаёмаснай шляхты Вялікага княства Літоўскага, таго сацыяльнага асяроддзя, сярод якога яму досыць часта даводзілася бываць. Мемуары па сутнасці ўяўляюць сабой своеасаблівы зборнік надзвычай цікавых, месцамі нават сюжэтна разгорнутых бытавых навел, у цэнтры якіх стаіць жывы, рэальны чалавек з уласцівымі яму рысамі характару і псіхалогіі, абумоўленымі канкрэтнымі сацыяльнымі ўмовамі таго часу".

Прываблівае і асоба самога аўтара, чалавека, безумоўна назіральнага, не пазбаўленага таленту, а да ўсяго, як гэта відаць з тэксту мемуараў, патрыёта сваёй Бацькаўшчыны. Ф. Еўлашоўскі адносіўся да небагатай шляхты, якая, кажучы словамі Я. Карскага з яго "Беларусаў", "цікавілася мясцовай рускай пісьменнасцю, рабіла пераклады, распаўсюджвала іх, пісала сама творы, займала розныя дзяржаўныя выбарчыя пасады і ў той жа час гатова была выконваць даручэнні знатных паноў, апякунства якіх для дробнага дваранства было важней за дзяржаўную службу". Аднак гэтая арыенціроўка на ўплывовых паноў, на тых, хто мае ўладу, разам з тым аказвала і благую паслугу. Застаючыся патрыётамі свайго краю, людзі, падобныя Ф. Еўлашоўскаму, міжвольна, каб выглядаць так, як усе, павінны былі ў нечым і здраджваць свайму роднаму, крэўнаму.

Найперш гэта дае знаць у стаўленні да мовы. Тыя, з кім пастаянна сутыкаўся Ф. Еўлашоўскі, гаварылі па-польску. Акрамя таго, на што ўказаў яшчэ Я. Карскі, Ф. Еўлашоўскі "і грамату... ведаў польскую і як пратэстант не меў справы з царкоўнаславянскімі кнігамі". Насычанасць паланізмамі ва ўспамінах відочная. На гэта звярнуў, дарэчы, увагу і вядомы мовазнаўца А. Жураўскі: "Мова помніка прадстаўляе сабой узор гутаркова-апавядальнага макаранічнага беларуска-польскага жаргону, якім карысталіся ў той час службовыя асобы беларускага паходжання. Ніводзін іншы вядомы нам старажытны помнік не адлюстроўвае ў такой ступені ўплыў польскай мовы, як "Дзённік" Ф. Еўлашоўскага".

Тут, як кажуць, слова з песні не выкінеш. Але не на гэта хочацца звяртаць увагу ва ўспамінах. А на тое, што яны пашыраюць наша ўяўленне пра эпоху, у якой жыў Ф. Еўлашоўскі, даюць, няхай часам і ўрыўкавыя звесткі пра дзеячаў таго часу, пераконваюць, што, нягледзячы на самыя неспрыяльныя ўмовы, душа беларуса жыла, а сам ён з гонарам адчуваў сябе грамадзянінам вялікай дзяржавы (Літоўскага княства), якая карысталася вялікім аўтарытэтам.

У мемуарах ёсць яскравыя сведчанні гэтага. Ф. Еўлашоўскі падрабязна расказвае (хоць найчасцей запісы маюць пратакольны характар, аўтар толькі паведамляе пэўны факт, абмяжоўваючыся простай яго канстатацыяй, пры гэтым робячы агаворку: "опускаю то, яко ведуючи, достаточне то от иншых выписано"), напрыклад, як польскія паны, калі над Рэччу Паспалітай узнікла пагроза ад татарскіх і турэцкіх заваёўнікаў, адкрыта выказвалі трывогу. Баяліся не толькі нападу ворагаў, а таго, што Вялікае княства Літоўскае можа пайсці на адасабленне ад Польшчы і пераарыентавацца на Маскву. А дамоўленасць ВКЛ з тагачасным рускім царом Іванам Жахлівым нічога добрага Польшчы не абяцала.

І яшчэ адно пацвярджэнне, што Ф. Еўлашоўскі пастаянна адчуваў сябе беларусам. Нездарма ён прыгадвае Варшаўскі сейм 1578 года. Не хавае захаплення, бо на ім "маршалковал межи послами" зусім не паляк, а прадстаўнік Вялікага княства Літоўскага князь Лукаш Болька Свірскі. Сейм вымушаны быў пайсці на парушэнне даўно прынятай традыцыі, згодна якой гэтыя абавязкі ўскладаліся на грамадзян польскага паходжання.

Не хаваў Ф. Еўлашоўскі і захаплення выдатнымі дзеячамі Бацькаўшчыны, расказваў пра іх добрыя справы і пры першай жа магчымасці супрацьстаўляў іх палякам.

Гадоў колькі назад пра гэта ў нашым літаратуразнаўстве гаварылася, што тым самым ён ідэалізаваў асобных магнатаў. Што можна наконт гэтага сказаць? Любыя мемуары маюць суб'ектыўны характар, а ў кожнага аўтара могуць быць свае сімпатыі і антыпатыі. Іншая справа, наколькі пры гэтым ён адыходзіць ад рэальных фактаў. А тут якраз Ф. Еўлашоўскага і нельга папракнуць у прадузятасці. Ён у ацэнках ідзе ад канкрэтна зробленага пэўнай асобай.

Праўда, нельга адмаўляць, што ва ўспамінах дае знаць асаблівая прыязь Ф. Еўлашоўскага да таго ці іншага чалавека. Так, прачулыя словы Фёдар Міхайлавіч прысвяціў Яну Ераніму Хадкевічу. Нагадаў таксама, што ажно трыццаць гадоў верай і праўдай служыў Мікалаю Крыштофу Радзівілу. Больш таго, і сваім дзецям Фёдар Міхайлавіч завяшчаў служыць яму.

Магнату? Ды Радзіме, бацькоўскай зямлі! Той беларускай зямлі, з замілаваннем да якой і напісаны мемуары, што ад першай да апошняй старонкі ўспрымаюцца як споведзь яе адданага сына.

Хоць "ад першай да апошняй старонкі" ўсё ж нельга сказаць. Бадай, Ф. Еўлашоўскі не спыніўся на запісе, зробленым, як ужо гаварылася, 2 студзеня 1604 года. Відаць, працягваў дзённік. Іншая справа, што наступныя занатоўкі не захаваліся. Але гэта толькі здагадкі. Што датычыць пачатку мемуараў, дык сумненняў няма, ён згублены. Хутчэй за ўсё ўступная частка. А што гэта так, пераконвае гэтае сцвярджэнне аўтара: "...я, Федор Евлашовский, уродилэмся от вышэйпомененых родичов моих в Ляховичах". Праўда, далей згадваецца імя маці Фядора. Імя ж бацькі мемуарыста даследчыкі ўстанавілі па іншых дакументах.

Фёдар Еўлашоўскі дакладна называе і дату свайго нараджэння: "в року от нароженя сына божого тисеча пятьсот сорок шостого, месяца фераля семого дня, в неделю ночи пришлое около полночи". Сям'я Еўлашоўскіх была праваслаўнай. Бацька яго збяднеў, але ў далейшым зноў змог стаць на ногі, займеў нават уласны герб. Клапаціўся, каб сын рос чалавекам пісьменным.

Фёдар Міхайлавіч прыгадваў: "...в пятом року почато ме бавить наукою рускою, кгды ж в тых часех в тэй нашей строне не было еще иншних наук". Проста прамоўлена, ды многае сказана. Адразу бачна, як у той час праходзіла выхаванне дзяцей. "Наука руская" — мова, што мела тады бытаванне ў тутэйшых мясцінах. Гэта была мова беларуская. Ф. Еўлашоўскі вывучаў таксама польскую мову, авалодаў і яўрэйскай.

Шкада, але больш пра маленства ён нічога пэўнага не гаворыць. Як і пра юнацтва таксама. Далейшая сустрэча з Фёдарам Міхайлавічам, калі можна так сказаць, адбываецца тады, калі ён меў за плячыма васемнаццаць гадоў. Як і іншыя маладыя людзі, не цураўся вайсковай службы. Ды і за гонар гэта лічылася служыць на карысць Айчыне. Іншая справа, у якім родзе войск, што залежала ўжо ад сацыяльнага паходжання. Кім служыў Ф. Еўлашоўскі? Пра гэта не сказаў. Засведчыў толькі, што "а потом, за наступленем и поднесенем войны от короля его милости Жикгимонта Августа с князем Иваном московским, былэм первшим раз на войне, где и битва была нашим щаслива над москвою року 1564, месяца ген/варя/ 26, на Иван полю над рекою Улою".

Маецца на ўвазе бітва, што адбылася ў час Лівонскай вайны каля вёскі Івацішкі непадалёку ад Лепеля. Рускім войскам камандаваў П. Шуйскі, а сутыкнуліся пры гэтым інтарэсы Жыгімонта ІІ Аўгуста (сына польскага караля Жыгімонта І Старога) і Івана Жахлівага. Пасля баявога хрышчэння Ф. Еўлашоўскі, па яго сведчанні, прымаў удзел у іншых ваенных сутыкненнях: "а потом аж до уприкреня были ми частые язды на тые войны".

Яно і не дзіўна — Лівонская вайна ж працягвалася 25 гадоў. Аднак, на думку аўтара мемуараў, ніякай карысці ад гэтых сутыкненняў не было. Ні яму самому, ні Бацькаўшчыне: "пожитку не веле тэ войны приносили. А мне паметнэ зостали для утерпеня велких приносили. А мне паметнэ зостали для утерпеня велких пригод, трудности, шкод и невыповеданых невчасов". Таму палічыў патрэбным як мага хутчэй развітацца з ваеннай службай. І гэта яму ўдалося. Перайшоў у двор маршалка земскага і гетмана ліфляндскага Яна Ераніма Хадкевіча. Неўзабаве быў прыкмечаны і іншымі ўплывовымі феадаламі, стаў сваім чалавекам пры іх дварах. Карыстаўся падтрымкай Сцяпана Батуры, Жыгімонта ІІ Аўгуста, Жыгімонта ІІІ Вазы... Пры гэтым, відаць, не мог не сказвацца пакладзісты, памяркоўны характар Ф. Еўлашоўскага. Усё ж быць, як кажуць, слугой некалькіх паноў — вельмі няпроста. Асабліва, калі ўлічыць, што ўсе яны — і абодва Жыгімонты, і Баторый, і той жа Хадкевіч — лёгка маглі знайсці сабе людзей, гатовых быць аддanымі ім верай і праўдай. Выбар мелі вялікі. Але з многіх па душы ім прыйшоўся ўсё ж Ф. Еўлашоўскі.

Гэта таксама талент — умець кантактаваць з людзьмі. І талент удвая большы — знаходзіць паразуменне з уплывовымі правіцелямі, якія валодаюць вялікай уладай. Такі талент Ф. Еўлашоўскі меў. Ды хутка сыходзіўся і са світай магнатаў. А саноўныя асобы ў патрэбных выпадках заўсёды належнае слова замовяць.

І замаўлялі, і падтрымлівалі. У 1577 годзе Сцяпан Баторый прапанаваў Ф. Еўлашоўскаму пасаду пінскага і сервецкага мастаўнічага. Праз два гады Фёдар Міхайлавіч атрымаў важнае даручэнне ад павятовай шляхты Навaградчыны — яго накіравалі паслом на Варшаўскі сейм. У той час выпрацоўваўся важны дзяржаўна-прававы дакумент дзяржавы "Трыбунал Вялікага Княства Літоўскага". Поруч з іншымі, уплывовымі і аўтарытэтнымі дзеячамі, яго прымаў і трыццацігадовы Ф. Еўлашоўскі. Нарэшце, у 1592 годзе Жыгімонт ІІІ Ваза прапанаваў яму пасаду падсудка Навагрудскага павятовага земскага суда.

Калі б пра ўсё гэта было расказана падрабязна, чытачы б (не кажучы ўжо пра гісторыкаў) атрымалі б унікальны фактычны матэрыял. Але ў дадзеным выпадку неабходна задавальняцца толькі сведчаннем пэўнай падзеі. Хоць, будзем справядлівымі, у адным месцы, згадваючы пра падзеі, што мелі ўплыў на жыццё тагачаснага грамадства, Ф. Еўлашоўскі гаворыць пра іх як ніколі падрабязна. Маецца на ўвазе паўстанне пад кіраўніцтвам С. Налівайкі, атрады якога, як вядома, дайшлі і да Беларусі. Нават цяжка сказаць, чаму аўтар мемуараў у дадзеным выпадку адмовіўся ад эскізнасці ў падачы матэрыялу. Хутчэй за ўсё не мог не выкарыстаць магчымасць яшчэ раз засведчыць, наколькі мужна, самаахвярна давалі беларусы адпор усім, хто пасягаў на свабоду і незалежнасць роднай зямлі.

Патрыёт Беларусі Ф. Еўлашоўскі заўсёды вітаў людзей, адданых Айчыне, гатовых стаць на абарону яе інтарэсаў. Разам з тым, як чалавек, які ў паўсядзённасці прытрымліваўся няпісанага кодэксу сумлення, выступаў (прытым рашуча і рэзка) супраць насілля, бо ведаў, што адна несправядлівасць абавязкова пацягне за сабой чарговую і тым самым утворыцца як бы свайго роду ланцуг жорсткасці. А нешта падобнае і адбылося з выступленнем С. Налівайкі. Штуршком для яго стала асабістая помста самога Налівайкі, пра што і паведамляе Ф. Еўлашоўскі: "В том року 1595 Наливайко, козак, собравши войско козаков, первей се указовал на Подолю, у Волошех, кусилсе был и о турецке замки. Потом, врацаючисе до Полски, спплендровал маетности пана Калиновского, местечисе за абешене некгдысь отца его наливайковаго, и еще, снать, от отца Калиновского".

Магчыма, і не ставячы перад сабой такой задачы, але тым самым Ф. Еўлашоўскі падкрэсліў стыхійнасць выступлення паўстанцаў, адсутнасць у іх нейкай пэўнай і выразнай мэты. А паколькі С. Налівайка найперш помсціў, дык і ён сам, і яго паплечнікі пра справядлівасць не думалі. Праводзячы свае рэйды, забівалі людзей, палілі паселішчы. Не жадалі разабрацца, хто вінаваты, а хто выпадкова становіцца ахвярай іх звярынай нянавісці і лютасці.

Так надарылася і тады, калі адзін з атрадаў Налівайкі, якім камандаваў палкоўнік Марцінка, у колькасці пяцьсот казакаў апынуўся ля Клецка. Становішча ўзнікла складанае. Лёгка прадугадаць, як перажываў тады Фёдар Міхайлавіч, непакоячыся (а ў Клецку маглі жыць блізкія яму людзі ці проста знаёмцы), каб жа хоць усё адбылося добра. І як узрадаваўся, калі паступілі першыя звесткі, што і гэтым разам чужынцы разгромлены. А хутка пачуў, што і нямала крыві пралілося і з таго боку, і з другога. Сваіх, безумоўна, шкадаваў. А чужых? Па мемуарах гэтага не адчуеш. Як заўсёды, вывeранасць радка, нічога лішняга.

Але, думаецца, ворагаў не шкадаваў. Не мог шкадаваць тых, хто першым праліў кроў: "...Мартинка забили, же сила их на пляфу (засталося). А инше назад се цофнувши, по дроздзе их ростох зоставили. А иншие, пострелеными юж будучи, в огонь скакали и кгорели, бо были стайне дворовую тут, у того млынка будучую, запалили, же се барзо их мало до Слуцка вротило". Але відочна, няхай і не вельмі пакуль выразна, як талент Ф. Еўлашоўскага вымагаў чагосьці большага, чым звычайныя мемуарныя запісы.

У згаданым урыўку ўжо прысутнічаюць і дэталі, што дало б магчымасць пры іншых стасунках перайсці да разгорнутых параўнанняў, нарадзіць ёмкія вобразы. Так, Ф. Еўлашоўскі пакуль толькі сведчыць, але, расказваючы пра падзеі, ён спакваля выходзіць і за межы гэтага сведчання. Хто ведае, магчыма, калі б пачаў пісаць (менавіта пісаць, а не занатоўваць шматлікія ўражанні, назапашваючы матэрыял для будучага дзённіка) раней, чым у 57-гадовым узросце, Ф. Еўлашоўскі з цягам часу стаў бы і празаікам.

А што ёсць падставы выказваць падобнае меркаванне, сведчаць і іншыя мясціны ў мемуарах. Да прозы, няхай яшчэ ў многім і нарысавай, вельмі прывязанай да дакументальнай асновы, набліжаюць тыя старонкі ўспамінаў, дзе аўтар разважае над асабістым жыццём. Відаць, наколькі шчыра любіў ён сваіх бацькоў, асабліва маці, пра смерць якой паведамляе з непрыхаванай скрухай: "В том року 1572, дня 8 февруарыя, сполнило ми се от нароженя моего лет 26, а семый двадцатый настал. В тым же року нещесливого месяца марца второго дня в неделю предэднем умарла намилшая матка моя Феодора, осиротила з великоим жалем пана отца нашого и нас, детей их милых, кторей тяло пристойною учтивостю похованэ зостало в Ляховичах в церкви руской".

Ці не з сямейнага ладу і згоды ў бацькоўскай сям'і ўзяла свой пачатак і прывязанасць Ф. Еўлашоўскага да ўласнай жонкі! Звалі яе Ганна, дзявочае прозвішча Балатоўна, паходзіла з Масковіі, мела праваслаўную веру. Ды рознае веравызнанне мужа і жонкі (у сталым узросце Фёдар Міхайлавіч прыняў каталіцтва) не паўплывала на асабістыя ўзаемаадносіны. Над усім брала верх каханне, а там, дзе сапраўдная любоў, няма месца звадам, канфліктам.

У Ф. Еўлашоўскага была вялікая і дружная сям'я — дзевяць сыноў і пяць дачок гадаваў ён з жонкаю. А калі над домам збіраліся хмары, разам пераносілі жыццёвую непагадзь. Сапраўды ужо: і шчасце, і слёзы папалам. А гора Ф. Еўлашоўскага напаткала ў 1602 годзе: быў забіты яго сын Ян.

Акурат пасяджэнне суда ішло. Пачуў страшную вестку і адразу туманам засціла вочы. І яшчэ боль, рэзкі боль з левага боку. Не ўстаяў, пахіснуўся і асунуўся на падлогу.

Свядомасць вярталася пакрысе і боль праходзіў, толькі цяжка-цяжка дыхалася. А з вяртаннем свядомасці ва ўсёй паўнаце і падрабязнасці вымалёўвалася тое, што адбылося. Для бацькі, канешне, усе дзеці аднолькава любыя. І кожнага ён імкнецца як мага хутчэй паставіць на ногі. Здаецца, зусім яшчэ нядаўна чакаў, не мог дачакацца той хвіліны, калі падрасце і Ян. А тут — на табе! І каб гэтак недарэчна загінуць! Забіў яго мясцовы жыхар Альбрэхт Бруханскі са сваім шваграм Корсакам. Прылюдна, на навагрудскім рынку.

Ачомаўшыся, Фёдар Міхайлавіч запатрабаваў было, каб яго адпусцілі з пасяджэння. Пра якую судовую справу магла ісці гаворка, калі недзе побач ляжаў мёртвы сын. Ды земскі суддзя Васіль Зянкевіч павёў сябе дзіўна. Сказаў, што мёртвага ўсё роўна з таго свету не вернеш, а таму трэба працягваць пасяджэнне. Забітага дахаты завязуць іншыя. І распараджэнне адпаведнае зрабіў. Толькі пазней, калі паспрабаваў Фёдар Міхайлавіч узбудзіць супраць забойцаў крымінальную справу, даведаўся, у чым прычына такой бессардэчнасці Зянкевіча: забойца Корсак быў зяцем земскага суддзі. Таму і пачаў Зянкевіч прымаць усе захады, каб ратаваць яго. І свайго дамогся. Справу павярнулі так, што ледзь не сам Ян Еўлашоўскі стаў ва ўсім вінаваты.

Адзінае, што заставалася Фёдару Міхайлавічу, — знайсці чалавека, які б здолеў ва ўсім сумленна і прынцыпова разабрацца. Выбар Ф. Еўлашоўскі спыніў на вядомым арыянскім прапаведніку Яну Ліцынію Намыслоўскім. Але і той, на жаль, засведчыў зусім не на карысць Фёдара Міхайлавіча. Таксама схіліўся да думкі, што бойку распачаў Ян.

Зрэшты, у гэтай гісторыі шмат незразумелага. Фёдар Міхайлавіч павінен быў бы хоць ва ўспамінах апраўдаць сына. Ды, можа, была такая прычына забойства, пра якую ён не хацеў, каб ведалі наступнікі?

Адно можна сказаць пэўна: пасля пахавання сына ў Фёдара Міхайлавіча пагоршылася здароўе (а хварэў ён яшчэ з 1566 года), і таму вымушаны быў развітацца з пасадай падсудка. А паколькі апошні запіс у дзённіку быў зроблены ў 1604 годзе (рукапіс абрываецца на сярэдзіне 55-й старонкі), дык даследчыкі меркавалі спачатку, што аўтар памёр у тым жа годзе. У крайнім выпадку, дабаўлялі яшчэ адзін год і годам смерці называлі 1605-ы. Але доктар гістарычных навук Ю. Капыскі знайшоў дакументы, якія дазволілі жыццё Ф. Еўлашоўскага "прадоўжыць" яшчэ на дзесяць год. Поспех спрыяў і А. Коршунаву. Дзякуючы яго росшукам, стала відочна, што Ф. Еўлашоўскі жыў яшчэ ў 1616 годзе. З'яўляўся крэдыторам Радзівілаў.

Магчыма, і тут яшчэ рана ставіць апошнюю кропку. Дарэчы, у "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі" так і зроблена — годам смерці называецца 1617 год.

Семдзесят адзін пражыты год — нямала. Хаця, безумоўна, не колькасцю пражытых гадоў прыцягвае да сябе ўвагу Ф. Еўлашоўскі.

Пра такіх звычайна кажуць, што яны нараджаюцца на світанні. Не ў прамым сэнсе, а ў пераносным. Калі ў жыцці грамадства пачынаецца новая эпоха, высвечваецца на даляглядзе новы дзень, абавязкова неабходны людзі, якія б адчулі неабходнасць, патрэбнасць уласнай працы дзеля нашчадкаў. Ф. Еўлашоўскі гэта зразумеў, таму і стаў першым беларускім мемуарыстам. Ён інтуітыўна прыйшоў да неабходнасці пакінуць сведчанне пра свой час. А, значыць, і пра самога сябе, бо час і чалавек непарыўна звязаны, асабліва калі гэта не просты чалавек, а асоба.

А наконт інтуітыўнасці? Магчыма, тут і недакладнасць. Памятаеце, Фёдар Міхайлавіч лічыў, што ўсё, зробленае чалавекам, адбываецца не без Боскага ўдзелу. А калі чалавек сумленны, дык Бог ва ўсім спрыяе яму, клапоціцца, каб лёс паварочваўся да яго толькі лепшым бокам.

Магчыма і так...

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**



**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку АНІСКОВІЧУ Уладзіміру Ігнатавічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.**

**Калектыў выдавецтва "Юнацтва" выказвае глыбокае спачуванне намесніку дырэктара выдавецтва, пісьменніку Міхасю Паўлавічу ПАЗНЯКОВУ з прычыны вялікага гора — смерці маці.**

**Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку выказвае глыбокае спачуванне галоўнаму рэдактару выдавецтва "Юнацтва" ПАЗНЯКОВУ Міхасю Паўлавічу з выпадку напаткаўшага яго гора — смерці маці.**

**Калектыў рэдакцыі тыднёвіка "Літаратура і мастацтва" выказвае глыбокае спачуванне фотакарэспандэнту Аляксею МАЦЮШУ ў сувязі са смерцю маці.**

**Калектыў часопіса "Нёман" выказвае глыбокае спачуванне Уладзіміру Георгіевічу МАШКОВУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці брата.**

**Калектыў выдавецтва "Мастацкая літаратура" выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніцы выдавецтва К.І.САНЖАРЭЎСКАЙ у сувязі з напаткаўшым яе горам — смерцю бацькі.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Аркадзю МАРЦІНОВІЧУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці сястры.**

